Б. ТАРАШКЕВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

## ДЛЯ ШКОЛ.

ВЫДАНЬНЕ ЧАЦЬВЕРТАЕ.

ВІЛЬНЯ — 1922 г

Друкарня „ДРУК“, Субоч 2.

В. ТАРАШКЕВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА
## ДЛЯ ШКОЛ.

ВЫДАНЬНЕ ЧАЦЬВЕРТАЕ.

ВІЛЬНЯ — 1922 г.
Друкарня „ДРУК“, Субоч 2.

# АД АУТАРА.

Дагэтуль беларуская літэратурная мова разьвівалася толькі паводлуг сваіх найагульне́йшых правоў, найбольш для яе́ характэрных і ад каторых яна не адступала. Шмат якія пытаньні заставаліся без адказу. Ня было аднолькавага пра́вапісу. Нічога дзіўнога. Пакінуўшы даўно парваныя і заняпаўшыя традыцыі старасьве́цкае беларушчыны, мова новага пісьменства адразу пачала буйна ўзрастаць з народнага карэньня. А народнае карэньне—яно ве́льмі багатае. І ня гле́дзячы на вялікую суцэльнасьць усяе́ беларускае мовы, яна мае, як і кожная іншая мова, колькі асобных, выразьне́й азначаных гутарак. Кожная гутарка дабівалася, каб заняць пачэснае ме́йсца ў нашым пісьменстве. Дзеля гэтага—і розныя, часта паміж сабой нязгодныя, спосабы пісаньня.

Трэба было часу, каб само жыцьцё паказала, якая гутарка мае найбольш сілы і здатнасьці на тое, каб зробіцца *асновай* літэратурнае мовы.

Трэба было часу, каб праявіліся ў пісьменстве ўсе́, якія толькі ёсьць у асобных гутарках, чыста беларускія асобнасьці.

Бяз гэтага не магло быць ніякае хоць больш ме́нш закончанае граматыкі, не магло быць і сталага, яснага правапісу. Бо граматыка павінна толькі замацаваць і падраўняць тыя лініі, якія сама мова ўжо на́значыла.

Мне́ здае́цца, што гэтыя лініі і характэрныя асобнасьці ўжо азначыліся, дзеля чаго я і адважыўся выпусьціць у сьве́т „Беларускую граматыку“.

У аснове яе́ ляжыць найбольш характэрная і найбольш чыстая гутарка беларускае мовы, што мае цьвёрдае *р* і вялікае аканьне.

Але аканьне агранічана некаторымі разамі, да чаго прымушае нас даўгая практыка нашага пісьменства.

Прымаюцца і ўсе́ другія характэрныя асобнасьці беларускае мовы, якія праводзіліся дагэтуль у нашых выданьнях.

Ад прынятае традыцыі адхіляюся толькі тады, калі гэтага вымагае яснасьць сыстэмы або чыстасьць мовы.

Зусім новага нічога ня ўводжу.

Аднолька-ж ня думаю — што жыцьцё ня зробіць з часам значных зьме́наў. Будзем толькі ме́ць надзею, што не залішна вялікія і што ўсё найважне́йшае зроблена добра.

Патрэбы школы прымусілі мяне́ адкінуць усё тое, што ме́ла больш чыста навуковае значэньне, як практычнае. Я ўве́сь час не выпускаў з вачэй *пэдагогічную старану* кніжкі.

Маю надзе́ю, што ў будучыне ле́пшы час пазволіць мне́ выпусьціць паўне́йшую і больш навуковую граматыку беларускае мовы.

Канчаючы, дзякую ўсім, хто мне́ служыў радаю і крытыкай.

А найбольш майму дабраму вучыцелю акадэміку **А. А. Шахматову**, каторы за ўве́сь час маіх унівэрсытэцкіх навук і пасьля паддаваў мне́ ахвоты напісаць беларускую граматыку і няспынна кіраваў маёю працаю.

Прыязнаму земляку акадэміку **Е. Карскаму** шчыры і вялікі дзякуй за яго ўвагу і значную помач (ён прагле́дзіў маю працу і даў вялікшую частку беларускай граматычнай тэрміналёгіі).

Не магу ня ўспомніць і докт. **Рудольфа Абіхта**, профэсара славянскіх моваў у Брэслаўскім Унівэрсытэце, бо яго думкі аб беларускай мове, пісьмы, пісаныя пабеларуску да маіх прыяцеляў у Вільні, і кніжка «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным», пераканалі мяне́ ў тым, што я стаю на правільнай дарозе.

**Б. Тарашке́віч.**

**13 жніўня 1918 г.**

I.

# ГУКІ.

§ 1. **Слова, склад націск.** Слова дзеліцца на склады: ва-да, ха-та, до-ля, ся-ке́-ра, ра-ні-ца. Слова можа быць *аднаскладовым*, калі ў ім адзін склад (дом, стол, конь), *двухскладовым* (ва-да, зяр-нё) і *шматскладовым* (пе-ра-ро-біц-ца).

Калі на пісьме слова не зьмяшчаецца ў адным радку, то яго можна перанясьці ў другі радок, але толькі так, каб не парваць складоў (вы-це-ра-біць). Канцы радка трэба паставіць знак пераносу (-).

У кожным слове адзін склад выгаварваецца галасьней за другія, з націскам: ха́-та, ка-ра́, ка́-ра.

На́ціск, калі трэба, азначаецца знакам ′ над літарай.

**Задачка.** Разьбіць словы на склады маленькімі рыскамі і азначыць націск (вось так, напрыклад: ва-да́, да-ро́-га):

Пажар, сьцяна, туман, агонь, загон, калека, пранік, Марыля, баравік, павучок, месяц, журавель, ялавец. Бог больш мае як раздаў. Скупы два разы траціць. Усякі цыган свайго каня хваліць.

§ 2. **Гукі галосныя і зычныя.** Склады можна разлажыць на асобныя гукі. Слова „соль“ можам сказаць так, каб кожны гук у ім цягнуўся доўга: с-о-ль. Лёгка пачуць, што ў гэтым слове тры гукі. У слове „рыба“ чатыры гукі, у слове „горка“ пяць гукаў і г. д.

Гукі дзеляцца на галосныя і зычныя.

Галосныя гукі: а, о, у, э (е), ы, і. Зычныя гукі: б, в, г, г′, д, дз, дж, ж, з, к, л, м, н, п, р, с, т, ф, х, ц, ч. Пры вымове галосных гукаў чуваць голас, грудзі дрыжаць. Іх можна доўга цягнуць, пяяць. Пры вымове зычных гукаў чуваць зык, а ня голас.

У складзе павінен быць адзін галосны гук — колькі галосных гукаў у слове, тольki ў ім складоў: стра-ха, пра-ле́с-ка. Склад можа быць і з аднаго тольki галоснага гуку: а-бы, а-ле́.

Зычных у складзе можа быць колькі і можа ня быць ніводнага: страш-ны, а-ле́.

Зычныя ўжываюцца тольki разам з галоснымі *).

Галосныя ў і й ня твораць асобнага складу: даў, праўда, дай, яд (значыць йад), вайна. З гэтага яны падобныя да зычных. (Гукі ў і й часамі называюць паўгалоснымі).

На пачатку слова дзеля вялікшае складнасьці *у*, *і* замяняюцца на кароткае ў, *й*, калі яны стаяць пасьля галоснага гуку: мы ўжо зробілі; я йду да цябе́.

Задачка. Перапішы, замяніўшы крыжык якімі трэба літарамі:

Гартаі загаралі ✕сё поле. Яны ✕вайшлі ✕ хату. Было ✕ бацькі тры сыны. Бацька ✕ маці ✕жо вярнуліся з поля. Была адна кароўка ды✕ тую ваўкі зьелі. А хто там ✕дзе́? Хто ✕дзе́, той паклоніцца.

§ 3. **Цьвёрдыя і мягкія зычныя.** Зычныя гукі могуць вымаўляцца цьвёрда і мягка.

**Цьвёрдыя зычныя.** (*б, в, г,* ґ *д, дз, дж, ж, з, к, л, м, н, п, р, с, т, ф, х, ц, ч, ш*) чуваць, напрыклад, у такіх словах: *б*осы, *в*ол, *г*осьць, *д*оля, кся*ндз*ы, *ж*ыта, ура*дж*ай, *з*орка, *к*ол, *л*ом, *н*ыркі, *п*ышны, *р*ысь, *с*ын, *т*ын, *ф*ыркаць, *х*ата, *ц*эп, *ч*ысты, *ш*ырокі.

Гэтыя самыя зычныя чуваць мягка ў такіх разох, як біць, віць, гінуць, *дз*ік, *з*іма, *к*інуць, *л*ёгкі, *м*е́йсца, *Н*ёман, *п*яць, *с*е́м, *ф*ігура, *х*ітры, *ц*іха.

*Зычныя р, ж, ч, ш, заўсёды цьвёрдыя:* рэпа, зара, жоўты, чысты, шырокі.

Так сама няма мягкіх *д* і *т*, бо яны зьмяніліся на мягкае *дз* і *ц*: *дзе́*нь, *це́*нь, *дз*ік, *ц*іха, *дз*я*дз*ька, пі*ц*ь (дзе́каньне і це́каньне).

---

*) Дзеля гэтага зычныя гукі называюць яшчэ суrалоснымі. Гэты назоў нядобры тым, што можна было-б падумаць, быццам зычныя гукі вымаўляюцца з голасам.

**Задачка.** Літары, што азначаюць цьвёрдыя зычныя, падчыркнуць аднэй рыскаю, а тыя, што азначаюць мягкія — дзьвюма:

Люлі, люлі, люлі!
Прыляцéлі куры,
Сéлі на вароцех
У чырвоных боцех,
Сталі сакатаці.

Што курачкам даці:
Ці жыта карыта,
Ці ячмéню жмéню,
Ці бобу каробу.

## ЗВОНКІЯ І ГЛУХІЯ ЗЫЧНЫЯ.

§ 4. Зычныя могуць вымаўляцца *звонка* (з голасам) і *глуха* (бяз голасу), прычым звонкаму адказвае глухі

| | | |
|---|---|---|
| б | п | (бабы—папы) |
| д | т | (дам—там) |
| ґ | к | (ґіль—кінь) |
| г | х | (гам—хам) |
| з | с | (заву—саву) |
| ж | ш | (жаль—шаль) |
| дз | ц | (дзѐнь—цéнь) |
| дж | ч | (хаджу—хачу) |

л, р, м, н — ня маюць падобных глухіх.

**Задачка.** Аднэй рыскаю адзначыць звонкія гукі, дзьвюма глухія.

### Вясковыя дзéці.

Пусты ўлéтку нашы сёлы,
Усé на полі за сярпом,
Толькі дзéтак крык вясёлы
Льéцца ў вуліцах руччом.

Вéцер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх блéдны твар,
З імі сонейка жартуе
І цяпло ім шлé, як дар.

*Якуб* Колас.

§ 5. Зычныя з, с, ц, дз называюцца сычачымі.
„ ж, дж, ш, ч, „ шыпячымі.
„ р, л „ плаўнымі.
„ н, м „ насавымі.

§ 6. Водлуг тых прыладаў, якімі найбольш вымаўляюцца зычныя, іх можна падзяліць на
*губныя:* б, в, м, п, ф.
*языччныя:* д, ж, дж, ч, ш, з, с, ц, дз, р, л, н.
*гартанныя:* г, ґ к, х.

**Задачка.** У кожным слове апішы ўсё зычныя гукі — якія яны: 1) цьвёрдыя ці мягкія; 2) звонкія ці глухія; 3) сычачыя, шыпячыя ці насавыя; 4) губныя, язычныя, гартанныя:

Хто поле троіць, той хлеб кроіць. Калі ўлез у дугу, не кажы не магу. Калі мужык з жонкай сварыцца, тады ў гаршку трасца варыцца.

(Пішы ў гэткім парадку: 1) хто; *х*—цьвёрды, глухі, гартанны; *т*—цьвёрды, глухі, язычны і г. д.).

§ 7. На пісьмé гукі азначаюцца **літарамі** (буквамі). Усé літары мовы, пералічаныя ў **сталым парадку**, называюцца азбукай (абэцэда).

Вось беларуская азбука: а, б, в, г, ґ, д, е, ё, ж, з, і, й, к, л, м, н, о, п, р, с, т, у, ў, ф, х, ц, ч, ш, ы, ь, э, ю, я.

Побач з кірыліцай ужываюць яшчэ *лацінку*:

a, b, c, ć, č, d, f, g, h, i, j, k, l, ł, m, n, ń, o, p, r, s, ś, š t, u, ŭ, w, y, z, ź, ž.

Літары я, е, ё, ю не азначаюць якіх асобных гукаў, розных ад а, э, о, у. Калі я, е, ё, ці ю стаіць за зычным, то зычны вымаўляецца мягка: сяду, нéба, лён, людзі, (значыць—сьяду, ньэба, льон, льудзі). На пачатку складу я, е, ё, ю значыць тое, што йа, йэ, йо, йу: яма — йама, твая — твайа; ёлка—йолка, патаёмны—патайомны; юшка—йушка; граюць—грайуць.

Знак ь не азначае ніякага гуку, а толькі мягкасьць зычнага; вугаль (але вугал), колькі (але калы), сьцяна, дзядзька і г. д.

Часамі ь паказвае, што зычны ня трэба зьліваць з чародным галосным, бо паміж імі чуваць й: зьявіцца, зьéсьці і г. д. (вымаўляецца: зьйавіцца, зьйэсьці).

Пасьля цьвёрдага зычнага ставіцца ў такім разе знак' над радком паміж літарамі: аб'явіць аб'ехаць, аб'éсьці, пад'éду і г. д.

Для азначэньня зыкаў дж і дз пішацца па дзьвé літары, але трэба памятаць, што вымаўляюцца яны не паасобку, а разам: *сяджу*, сядзéць.

Для азначэньня такога зыку, як у словах мазґі, ґанак ужываецца знак ґ*).

*) Не заўсёды.

§ 8. Дзеля таго, што ў беларускай мове зычныя **ж, ч, ш, р** цьвёрдыя, то посьля іх ужываецца ня *і*, а заўсёды *ы*: ж*ы*ла, ч*ы*ста, ш*ы*ла, бяр*ы*.

Дзеля таго самага посьля ж, ч, ш, р, ніколі ня пішацца *я, ю, е, ё*, а толькі *а, у, э, о*: бур*а*, гавар*у*, р*э*заць, сьцярог,; ж*а*ба, ж*у*к, ж*э*ўжык, ж*о*ўты; ч*а*сьць, ч*у*ю, ч*э*сьць, ч*о*рны; ш*а*бля, ш*у*м, ш*э*ршань, ш*о*сты.

**Задачка.** Паставіць літары замéста крыжыка:

Р╳ба, гр╳б, гр╳зь, р╳бы, зьб╳р╳г, твар╳г, ж╳ць, ж╳рдзь, ж╳нка, ч╳ста, зач╳пка ч╳рт, быч╳к; шэрш╳нь, ш╳ць, страш╳нны, ш╳сьнік ш╳ры, ш╳ўк, ш╳м.

§ 9 **Аканьне.** Гукі **о** (ё), **э** (е) ў беларускай мове чуваць ясна толькі пад націскам: до́бра, цёплы, ле́с, цэлы і г. д.

Калі склад не пад націскам, то замéста *о, э* чуваць *а*: добры—даброˊ; цёплы—цяплоˊ, (цьапло), ле́с—лясы (льасы) цэп—цапы.

Аканьне найвыразьне́й выступае ў складзе перад самым націскам: ле́с—лясы. У другіх складох на ме́йсцы *э* можа быць гук блізкі да *і* або гук няясны паміж *а* і *е*—*а*ᵉ: лесавік вымаўляецца лісавік або ляᵉсавік.

Аб тым, як трэба пісаць пры аканьні, глядзі „Пра́вапіс".

§ 10 **Аб складох ры, лы, лі.** У складох не пад націскам знаходзім **ры, лы, лі** ў гэткіх словах: дрыжэць, глытаць, праглынуць, трысьцінка, трысьнік, брыво, крыві, крывавы, блыха́, блыхі, дрывамі, дрывяны, крышыць, крыха, грыме́ць, трыбух, хрысьціць, трывога, стрыгатаць, брысьці, яблык, яблына, блішчэць.

Калі на гэтыя склады прыходзіцца націск, то тады знаходзім **ро, ло:** дрож, тросьць, бровы, кроў, блохі, дровы, крошка, гром, хрост, брод і г. д.

**Задачка.** Перапішы вышэй пералічаныя словы ў другіх формах (напр.: дрыжу, дрыжэў, брыво, брыва, брыву, і г. д., але бровы).

§ 11. **Падвойныя зычныя.** Беларуская мова мае падвойныя зычныя ў такіх разох:

*льль:* вясе́льле, купальле, гальлё, Ільля, ральля, сольлю, кольле і г. д.

*ньнь:* здарэньне, сумленьне, пытаньне і г. д.

*зьзь:* з гразьзю, мазьзю, зазьзяць і г. д.

*сьсь:* каса — касьсё, волас — валосьсе, колас — калосьсе і г. д.

*дзьдзь:* судзьдзя.

*цьць:* жыцьцё, багацьце, куцьця і г. д.

*жж:* збожжа і г. д.

*чч:* лык — лычча, сук — суччо, пе́ч — запе́чча, запе́ччу, у ваччу і г. д.

*шш:* зацішша, каля ушшу, з роскашшу і інш.

Апрача гэтага падвойныя зычныя зьяўляюцца пры тым, як словы складаюцца: с-сыпаць, ад-даць, бяз-зубы і г. д.

**Задачка.** Перапішы словы з удваеньнем і дапішы свае́ прыклады.

§ 12. **Прыдыханьне.** Калі слова пачынаецца з галоснага, то перад ім можа стаяць *прыдыханьне* в або г: *вока, вуха;* авёс — гавёс і г. д. Прыдыханьне сустракаецца і ў сярэдзіне слова паміж двума галоснымі: павук, навука, цівун і інш.

**Задачка.** Азнач рыскаю прыдыханьне:

Вакно, варыць, вочы, вол, вужака, вузкі, вугаль, павук, павёў, віна, вайна, Радзівон, вон, Лявон, аплявуха, гараць, гара, гарэх, грэх, гарбуз, ганю, гаруд, вуліца, густы, горад, гарод, гоні.

§ 13. **Кароткае ў.** Паміж галосным і зычным можаць стаяць толькі ў, а не *в:* залатоўка, кароўка, (але — карова), толькі рэха ў ле́се йдзе́.

У канцы закрытага складу*) стаіць так сама ня л, а ў: даў, поўны, тоўсты і інш.**).

**Задачка.** Паставіць літара заме́ста крыжыка:

Апусьце́×а поле. Работы на ім да×но скончаны. Пуста й гола ×сюды, толькі ма×адое жыта адно зеляне́е × полі і рэзка выдзяляецца сярод мёртвага абразу асе́ньняга часу. Пачарне́ × шырокі ×уг; адны толькі парыжэ×шыя фігуры стаго× з востраю жэрдкаю × ве́рсе раскінуліся па грудох і нудна пазіраюць × не́ба.

---

*) Закрыты склад гэта такі, што канчаецца на зычныя або на ў, й: пол, вол, пан, дай, ме́ў і г. д. У слове ва-да, абодва склады закрытыя.

**) Але ў іме́ньнях астае́цца: кол, стол, гарэлка, іголка і інш.

**§ 14. Звонкія зычныя перад глухімі і на канцы слова** страцілі звонкасьць і вымаўляюцца глуха:

| пішацца: | вымаўляецца: |
| --- | --- |
| рэдка | рэтка |
| ножка | ношка |
| гразка | граска |
| абхапіць | апхапіць |
| боб | боп |
| лёд | лёт |
| дождэю | дош* |

і г. д.

*Глухія зычныя перад звонкімі* зробіліся звонкімі.

| пішацца: | вымаўляецца: |
| --- | --- |
| касьба | казьба |
| малацьба | маладзьба |

і г. д.

Задачка. Крыжыкі замяніць літарамі:

**Асе́ньні ве́чар.**

Вые бура. Ле́+ гамоніць,
Як на сходзе гдзе́ наро+.
Ве́цер хмары так і гоніць;
До++ і гра+ь і галалё+.
На камінку корч пылае;
Каля пе́чы дзе́+ сядзіць,
Ба+ька ла+ці папраўляе,
Маці ні+кі се́ла ві+ь.
Ве́цер вые, ня сьціхае,
Дзіка ў коміне шумі+,—
То заплача, засьпявае,
То па стрэсе прабяжыць.
Ціха ў хаце. Сэрца ные,
Душу стра+ апанаваў.
Чаму-+, ве́цер, думкі злыя
У душу ты маю нагнаў?

*Якуб Колас.*

II.

# Часьціны мовы.

§ 15. Усé словы можна падзяліць на 9 радоў або *дзéвяць часьцінаў мовы:*

1. **імя**
2. **прымéта**
3. **чысло**
4. **займя**
5. **дзеяслоў**
6. **прыслоўе**
7. **прыймя**
8. **злуч**
9. **кліч.**

§ 16. **Імя.** Да гэтае часьціны мовы належáць усé тыя словы, што *скланяюцца* і маюць адзін з трох радоў: *мужчынскі* (баран, стол), *жаноцкі* (авéчка, лава), *ніякі* (вакно, дабро).

§ 17. **Скланéньнем называецца зьмéна канчатку слоў** у *адзіночным* і *множным* **ліку ў залéжнасьці ад розных** пытаньняў, напрыклад:

| пытаньне | | лік адзіночны | лік множны |
|---|---|---|---|
| 1. | хто? | брат | браты |
| | што? | стол | сталы |
| 2. | каго? | брата | братоў |
| | чаго? | стала | сталоў |
| 3. | каму? | брату | братом |
| | чаму? | сталу | сталом |
| 4. | каго? | брата | братоў |
| | што? | стол | сталы |
| 5. | кім? | братам | братамі |
| | чым? | сталом | сталамі |
| 6. | пры кім? | браце | братох |
| | пры чым? | сталé | сталох |
| 7. | Завучы кажам: | браце! сталé! | браты! сталы! |

Гэтыя пытаньні называюцца *склонамі*. Кожны склон мае свой уласны назоў:

1. *назоўны* хто? што?
2. *родны* каго? чаго?
3. *давальны* каму? чаму?
4. *вінавальны* каго? што?
5. *творны* кім? чым?
6. *месны* пры кім? пры чым?
7. *клічны* ужываецца пры клІканьні.

Задачка. Праскланяй у адзіночным і множным ліку: дом, вада, палатно.

§ 18. Апрача ліку адзіночнага і множнага ў беларускай мове часамі бывае *парны лік*: дзьве назе, дзьве руцэ, дзьве сасе і г. д.*).

Ад множнага ліку трэба адрозьніць такія *зборныя* іменьні як гальлё, лісьцё, кольле і інш., якія маюць форму адзіночнага ліку, але азначаюць збор многіх аднолькавых рэчаў.

§ 19. Некаторыя іменьні ўжываюцца толькі ў *адзіночным ліку*: жывёла, гароднІна, садовіна, малако, насеньне хараство і шмат іншых.

Некаторыя—толькі ў *множным ліку*: сані, сені, дрыжыкі і шмат інш.

Задачка. Напішы, якія іменьні ведаеш, што ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку або толькі ў множным ліку.

§ 20. Кожнае імя належыць да аднаго з трох *родаў*, *мужчынскага, жаноцкага або ніякага*. Калі на якую рэч можна казаць ён, то гэта мужч. р.: брат. стол і г. д.; калі можна казаць—яна, то гэта жаноцкі род: сястра, бяда, кніга і г. д.; калі—яно, то гэта ніякі род: дзіця, ваkно, дабро і г. д.

Некаторыя іменьні належаць да *агульнага* роду, калі могуць азначаць так сама мужчынскі як і жаноцкі род: сірата, калека і інш.

Задачка. Напішы прыклады на іменьні мужчынскага, жаноцкага, ніякага і агульнага роду.

---

*) але заўсёды: два сталы, два браты і г. д., а ня два брата̀, два стала̀ (водлуг старога парнага ліку).

§ 21. Імя можа быць або *ўласным*: Вільня, Ме́нск, Беларусь, Лявон—або *агульным*: ме́ста, край, чалаве́к і г. д.

Уласнае імя азначае толькі адну якую рэч, каб аддзяліць яе́ ад другіх падобных.

Агульнае імя паказавае наагул цэлы рад падобных рэчаў.

Уласнае імя пішацца з вялікае літары.

---

## УЗОРЫ СКЛАНЕ́НЬНЯ.

### *I. Мужчынскі род.*

**§ 22.** А. Цьвёрды зычны перад канчаткам:

| | лік адзіночны. | лік множны. |
|---|---|---|
| а) Наз. | 1) вол | вал-ы |
| Род. | вал-а́ | вал-оў |
| Дав. | вал-у | вал-ом |
| Він. | вал-а | вал-ы |
| Твор. | вал-ом | вал-амі |
| Ме́сн | вал-е́ | вал-ох |
| Кліч. | бач ніжэй § 26. | |

Другія прыклады:

лік адзіночны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | 2) пясок | 3) дождж |
| Род. | пяск-у | даждж-у |
| Дав. | пяск-у | даждж-у |
| Він. | як Назоўны | |
| Твор. | пяско-м | даждж-ом |
| Ме́сн | пяск-у | даждж-у |

лік множны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | пяск-і | даждж-ы |
| Роди | пяск-оў | даждж-оў |
| Дав. | пяск-ом | даждж-ом |
| Він. | як Назоўны | |
| Твор. | пяск-амі | даждж-амі |
| Ме́с. | пяск-о́х | даждж-о́х |

лік адзіночны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | 4) канéц | 5) хвальк-ó |
| Родн. | канц-à | хвальк-à |
| Дав. | канц-у | хвальк-у |
| Він. | як Наз. | як Родн. |
| Тв. | канц-ом | хвальк-ом |
| Мéс. | канц-ы | хвальк-у |

лік множны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | канц-ы | хвальк-і |
| Род. | канц-óў | хвальк-óў |
| Дав. | канц-óм | хвальк-óм |
| Він. | як Наз. | як Родн. |
| Тв. | канц-àмі | хвальк-àмі |
| Мéс. | канц-óх | хвальк-óх |

Ува ўсіх гэтых прыкладах націск прыходзіцца на самы канчатак слова: вал-à, вал-у, вал-óм, вал-é, вал-ы, вал-óў і г. д.

б) Калі націск ня прыходзіцца на самы канчатак, то замéста *о* стаіць *а* (аканьне). У мéсным склоне *е* астаéцца.

лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | 1) брат | 2) народ | 3) страх |
| Род. | брат-а | народ-у | страх-у |
| Дав. | брат-у | народ-у | страх-у |
| Він. | як Род. | як Назоўны | |
| Тв. | брат-ам | народ-ам | страх-ам |
| Мéс. | брац-е | народз-е | страс-е і страх-у |

лік множны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | брат-ы | народ-ы | стрàх-і |
| Род. | брат-оў | народ-аў | страх-аў |
| Дав. | брат-ом | народ-ам | страх-ам |
| Він. | як Род. | як Назоўны | |
| Тв. | брат-амі | народ-амі | страх-амі |
| Мéс. | брат-ох | народ-ах | страх-ах |

### § 23. Мягкі зычны перад канчаткам.

адзіночны лік.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | 1) лось | 2) локаць | 3) конь |
| Род. | лас-я | лóкц-я | кан-я |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Дав. | лас-ю | ло́кц-ю | кан-ю |
| Він. | як Род. | як Наз. | як Род. |
| Тв. | лас-ём | ло́кц-ем | кан-ём |
| Ме́с. | лас-і | ло́кц-і | кан-і |

**лік множны.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | лас-і | локц-і | коч-і |
| Род. | лас-ёў | локц-яў | кон-яў |
| Дав. | лас-ём | локц-ям | кон-ям |
| Він. | як Назоўны | | |
| Тв. | лас-ямі | локц-ямі | кон-ямі |
| Ме́с. | лас-ёх | локц-ях | кон-ях |

§ 24. С. Іме́ньні на-й скланяюцца так сама:

**лік адзіночны.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | вераб́ей | лой | абычай |
| Род. | вераб'-я | ло-ю | абыча́-ю |
| Дав. | вераб'-ю | ло-ю | абыча́-ю |
| Він. | як Род. | як Назоўны | |
| Тв. | вераб'-ём | ло-ем | абыча́-ем |
| Ме́с. | вераб'-і | ло-і | абыча̀-і |

**лік множны.**

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | вераб'-і | абыча́-і |
| Род. | вераб'-ёў | абыча-яў |
| Дав. | вераб'-ём | абыча̀-ям |
| Він. | як Назоўны | |
| Тв. | вераб'-ямі | абыча-ямі |
| Ме́с. | вераб'-ёх | абыча-ях |

## § 25. Увагі аб розных канчатках.

1. *Родны склон адз. ліку* мае канчатак *у* або *а*, як у цьвёрдым, так і ў мягкім склане́ньні (у мягкім пішацца—ю, я).

Канчатак — *а* знаходзім:

1) у іме́ньнях, што азначаюць жывыя творы: чалаве́ка, Язэпа, брата, ваўка, вала, злодзея, вераб'я і інш.

2) у іме́ньнях прадме́тных*), што можна бачыць, лічыць, найбольш, калі націск прыходзіцца на канчатак: грош—граша̀, куст—куста̀, малаток—малатка̀, нож—нажа̀, нос—наса̀, кош—каша̀, коўш—каўша̀, гарнец—гарца і інш.

---

*) ад слова прадме́т (рэч.: усе́ тыя іме́ньні, што можам бачыць, лічыць, называюцца прадме́тнымі.

3) у назовах мéсяцаў: студня, марца, красавіка, мая і г. д.

Усé іншыя імéньні звычайна маюць канчатак *у*: розуму, болю, жалю, сьмéху, смутку, грому, роду, міру, абычаю, дару, страху, вéку, року, пакою, усходу, заходу, цéню, (гэты цéнь), плачу, ураджаю, сну, жару, прымусу, люду, народу, краю, бору, лéсу, сьнéгу, лёду, попелу, алéю, шроту, хвойніку і шмат інш.

Бачым, што ва ўсіх гэтых імéньнях націск ня прыходзіцца на *у*. Толькі ў гэткіх словах, як *пясок, тытун, галун, палын, авёс*, знаходзім: пяску, тытуну, галуну, палыну, аўсу.

Апрача гэтага—*у* пад націскам знаходзім яшчэ ў колькі словах: дажджу, агню і часамі чацьвяргу.

2) *Мéсны склон адз. ліку* мае чатыры канчаткі: *е, і, ы, у*.

У імéньнях *з цьвёрдым зычным перад канчаткам* знаходзім *е*: на дубé, пры сталé, у млынé, у кажусé, граць на разé, у гаросе (канчатак не пад націскам).

Імéньні на *ж, ш, ч, ц, р* заўсёды маюць *ы*: на дажджы, у кашы, на нажы, у калодзяжы, аб коклюшы, паралюшы, у плачы, у бучы, на канцы, на пальцы, на жарабцы, у бары, на тапары і г. д.

З імéньняў на *ж, ш, ч, ц, р* тыя, што азначаюць асобы, найчасьцéй маюць *у*: аб купцу, пры Рыгору, Лукашу, аб Марцінкéвічу, аб чужазéмцу, нéмцу, кітайцу і г. д.

Імéньні на — *к* блізка заўсёды маюць канчатак на *у*: у Полацку, на баку, аб ваўку, на языку, аб чалавéку.

Імéньні *з мягкім зычным перад канчаткам* канчаюцца на *і*: пры гасьці, цясьці, камяні, кані, салаўі, вераб'і, Дунаі, прыяцелі і г. д.

*3. Клічны склон.* У значэньні клічнага склону часта ўжываецца назоўны склон: паслухай, братка! паслухайце, браткі! Але клічны склон мае і сваé асобныя канчаткі—*у* і *е* (пасьля цьвёрдага зычнага *а*):

1) Іване, слаўны пане! попе, браце, сваце, дубе, лéсе, сусéдзе і г. д.

Бог—Божа, чалавéк—чалавéча, казак—казача, воўк—воўча, гарох—гаросе, гарэх—гарэсе, айцéц—ойча, купéц—купча і інш.

2) Конь—коню, вучыцель—вучыцелю, госьць—госьцю, рай—раю, дабрадзèю і г. д.; мужу, крыжу, панічу, пісару, бору, явару, братку, галубочку, дзядзьку, дзéдку, сынку і г. д.

У множным ліку часамі ўжываецца канчатак—*ове*: панове! сватове! жыдове! і г. д.

**Задачка.** 1) Праскланяй: чалавéк, вол, воз, гарод, двор, залом, пісар, рамéнь, зьвèр, аўгорак, цéнь, боль, авёс, верабéй, сук, гарэх, вораг, бéраг, алéнь, нож.

2) Напішы, якія вéдаеш словы на *а* і на *у* ў родным склоне, апрача тых, што ёсьць у граматыцы.

3) Адкажы, у якім склоне зроблены вынятак з-пад аканьня.

4) Успомні з пе́сьняў, казкаў ці прыказкаў якія-колечы іме́ньні ў клічным склоне.

*II. Ніякі род.*

§ 26. **Іме́ньні на о (не пад націскам — а).**

Склане́ньне слоў на *о* падобнае да мужчынскага роду.

Тры склоны — назоўны, вінавальны і клічны заўсёды аднолькавы (дзеля гэтага пішам іх у адным радку: Н. В. К.).

**Прыклады.**

Адзіночны лік.

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К. | 1) сял-о | 2) пале́н-а |
| Род. | сял-а́ | пале́н-а |
| Дав. | сял-у | пале́н-у |
| Тв. | сял-ом | палѐн-ам |
| Ме́с. | сял-е́ | пале́н-е |

Множны лік.

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К. | сёл-ы | палѐн-ы |
| Род. | сёл-аў | палѐн-аў |
| Дав. | сёл-ам | пале́н-ам |
| Тв. | сёл-амі | пале́н-амі |
| Ме́с. | сёл-ах | пале́н-ах |

Адзіночны лік.

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К. | 3) пляч-о | 4) мор-а |
| Род. | пляч-а | мор-а |
| Дав. | пляч-у | мор-у |
| Тв. | пляч-ом | мор-ам |
| Ме́с. | пляч-ы | мор-ы |

Множны лік.

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К | пле́-чы | мор-ы |
| Род. | пле́ч-аў | мор-аў |
| Дав. | пле́ч-ам | мор-ам |
| Тв. | пле́ч-амі | мор-амі |
| Мѐс. | пле́ч-ах*) | мор-ах |

*) Можна ўжываць і форму плячмі, плячыма̀, на плячох.

Адзіночны лік.

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К. | 5. жыцьц-ё | 6. пол-е |
| Род. | жыцьц-я | пол-я |
| Дав. | жыцьц-ю | пол-ю |
| Тв. | жыцьц-ём | пол-ем |
| Ме́с. | жыцьц-і | пол-і |

Множны лік.

| | |
|---|---|
| Н. В. К. . | . пал-і |
| Род. . | . пал-ёў |
| Дав. . | . пал-ём |
| Тв. . | . пал-ямі |
| Ме́с.. . | . пал-ёх |

## § 27. Увагі аб канчатках.

1) *Месны склон* адз. л. мае чатыры канчаткі: *е*, *і*, *ы*, *у*, якія ўжываюцца, так, як у іме́ньнях мужчынскага роду, напр.:

a) у сяле́, пры вакне́, у гумне́, на сукне́, аб пісьме́ і г. д. (канчатак *е* пад націскам).

на се́не, у ле́це, на це́ле, у слове, на не́бе, на пале́не, і г. д. (канчатак не пад націскам).

b) аб дабры, на плячы, пры гумянцы, на моры, у горы, пры вогнішчы, на сэрцы, на ваконцы, на сонцы і г. д.

c) іме́ньні на *к* перад канчаткам маюць *у*: ве́ка—аб ве́ку, вока—аб воку.

d) у лахмацьці, у жыцьці, на гальлі, у чытаньні, пры здарэньні, на полі і г. д.

Задачка. Вывесьці правіла, калі ўжываецца які канчатак.

2) *Назоўны склон* мн. ліку мае канчаткі *і*, *ы*: гумны, палі, азёры, здарэньні і г. д.

3) *Родны склон* мн. л. можа ўжывацца або з канчаткам оў (аў) або без канчатку: вядзёр — вёдраў, красён — кроснаў, пле́ч—пле́чаў і г. д.

4) Трэба заўважыць розьніцу ў націску: сяло—сёлы, вядро—вёдры, вакно—вокны; але—два, тры, чатыры сялы, вядры, вакны і г. д.

5) Слова ярмо ў множным ліку мае ёрмы (але—два, тры, чатыры ярмы).

§ 28. *Вока і вуха* скланяюцца гэтак: вока, вока, воку, вокам, на воку; вочы, вачэй, вачом, вачмі, аб вачох; вуха, вухам, у вусе; вушы, вушэй, вушом, вушмі, аб вушох.

§ 29. Словы з устаўкаю *эн*, *ат*, *эс*. Сюды прыналéжаць: 1) іме́ньні на *мя*: імя, плямя, це́мя, рамя, стрэмя і 2) гэткія як цяля, парася, зярня, ваўчаня, княжа і іншыя *).

Адзіночны лік.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. В. К. | | імя | ягня, | ягнё |
| Род. | іме́ньня, | імя | ягняці | |
| Дав. | іме́ньню, | імю | ягняці | |
| Тв. | іме́ньнем, | імем | ягнём | |
| Ме́с. | іме́ньні, | імі | ягняці | |

Множны лік.

| | | |
|---|---|---|
| Н. В. К. | іме́ньні | ягняты |
| Род. | іме́ньняў | ягнят, аў |
| Дав. | іме́ньням | ягнятам |
| Тв. | іме́ньнямі | ягнятамі |
| Ме́с. | іме́ньнях | ягнятах |

Устаўку *эс* знаходзім у множным ліку слова кола—калёсы **) ды пе́ба—нябёсы.

**Задачка.** 1) Праскланяй: плямя, цяля, ваўчаня, княжа 2) Што значыць *колы* і што значыць *калёсы*?

*III. Жаноцкі род.*

§ 30. А. Іме́ньні жаноцкага роду на а.

Лік адзіночны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | 1) галав-а | 2) калін-а |
| Род. | галав-ы***) | калін-ы |
| Дав. | галав-é | калін-е |
| Він. | галав-у | калін-у |
| Тв. | галав-ою (ой) | калін-аю (ой) |
| Ме́с. | галав-é | калін-е |

---

*) Побач з формамі цяля, зярня, ваўчаня, княжа можна ўжываць формы на *о* (ё) і *нё*: цялё, парасё, зарнё, ваўчанё, княжо і іншыя.

**) Множны лік ад кола: *калёсы* зьмяніў сваё значэньне і значыць павозка.

***) Гэткія формы, як галавэ, зарэ, зямлé, ужываюцца дужа рэдка.

### Лік множны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | галов-ы | калін-ы |
| Род. | галоў, галов-аў | калін-аў |
| Дав. | галов-ам | калін-ам |
| Він. | як Назоўны | |
| Тв. | галов-амі | калін-амі |
| Мés. | галов-ах | калін-ах |

### Лік адзіночны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | 3) рук-а | 4) горк-а |
| Род. | рук-і | горк-і |
| Дав. | руц-э | горц-ы |
| Він. | рук-у | горк-у |
| Тв. | рук-ою(ой) | горк-аю (ай) |
| Мés. | руц-э | гор-цы |

### Лік множны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | рук-і | горк-і |
| Род. | рук | гор-ак, горк-аў |
| Дав. | рук-ам | горк-ам |
| Він. | як Назоўны | |
| Тв. | рук-амі | горк-амі |
| Мés. | рук-ах | горк-ах |

### Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | 5) зар-á | 6) зямл я | 7) дол-я |
| Род. | зар-ы | замл-і | дол-і |
| Дав. | зар-ы | зямл-і | дол-і |
| Він. | зар-у | зямл-ю | дол-ю |
| Тв. | зар-ою (ой) | зямл-ёю(ой) | дол-яю (яй) |
| Мés. | зар-ы | зямл-і | дол-і |

### Лік множны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | зор-ы | зéмл-і |
| Род. | зор-аў | зямéль, зéмл-яў |
| Дав. | зор-ам | зéмл-ям |
| Він. | як Назоўны | |
| Тв. | зор-амі | зéмл-ямі |
| Мés. | зор-ах | зéмл-ях |

## § 31. Увагі аб розных склонах.

1. *Давальны і мéсны склон* адз. л. маюць тую самую форму. У імéньнях, што маюць перад канчаткам *цьвёрды зычны*, гэтыя склоны канчаюцца на *е*: вадзé галавé, руцэ, сасé, назé (націск на канчатку); каліне, палавіне, блазноце, рабоце (канчатак бяз націску).

Калі-ж перад канчаткам*) стаіць адзін з ацьвярдзéўшых зычных *р, ц, ч, ж, ш*, або *к* (пасьля *к* тады, калі націск не на канчатку—лаўка, матка, шапка, ласка), то ў давальным і мéсным склоне маем *ы*: зары, гары, мацы, душы, дзяжы, (пад націскам); вуліцы, аборы, кашы, пражы, лаўцы, матцы, шапцы і г. д не пад націскам).

У скланéньні з мягкім зычным перад канчаткам заўсёды маем канчатак *і*: зямлі, сям'і, долі, княгіні, волі, і г. д.

Імéньні з асноваю на *к, г, х* зьмяняюць іх на *ц, з, с*: рука—руцэ, горка—горцы, нага—назé, дарога—дарозе, саха—сасé, страха—страсé, Лявоніха—Лявонісе.

2) *Родны склон* мн. ліку мае часта канчатак — аў, як у імéньнях мужчынскага роду: водаў, варонаў, маладзіцаў, зéмляў, нядзéляў, пéсьняў і г. д.

Але найчасьцéй ужываюцца гэткія формы, як дачок, дзявок, гор, зор, кароў, галоў, замéль, нядзéль, сьлёз, лялек, шпілек і г. д. Толькі рук і ног заўсёды без канчатку *аў*.

Радзéй сустракаем канчатак *ей*: сьвінéй, сянéй і інш.

*Клічны склон* заўсёды аднолькавы з назоўным: Літва, родна зямéлька! Жальцеся звонкія струны.

**§ 32. Імéньні муж. р. на а.** Так сама, як імéньні жан. р. на *а*, скланяюцца імéньні муж. р. на *а*: старшыня, стараста, сабака, судзьдзя і інш. Толькі ў тв. скл. часамі сустракаюцца формы мужчынскага скланéньня: з старшынём, старастам, сабакам і г. д.

## § 33. Б. Імéньні жан. р. на зычны.

Сюды адносяцца такія імéньні, як косьць, гразь, соль, мéдзь; ноч, мыш, роскаш, моц; любоў, кроў і падобныя; у ліку множным такія, як сані, сéні, грудзі, гусьлі, дзьвéры, — наагул, усé тыя імéньні ж. р., што ў наз. склоне не канчаюцца на *а*. Апрача гэтага сюды адносяцца: куры, сусéдзі, чэрці.

*) Трэба разумéць канчатак назоўнага склону.

§ 34. Прыклады.

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | косьць | рэч | кроў |
| Род. | касьц-і | рэч-ы | крыв-і |
| Дав. | касьц-і | рэч-ы | крыв-і |
| Він. | як Назоўны | | |
| Тв. | касьц-ёю(й)*) | рэч-аю(й) | крыв-ёю (й) |
| Мéс. | касьц-і | рэч-ы | крыв-і |

Лік множны.

| | | |
|---|---|---|
| Наз. | косьц-і | рэч-ы |
| Род. | касьц-éй | рэч-аў |
| Дав. | кась-цём | рэч-ам |
| Він. | як Назоўны | |
| Тв. | касьц-ямі, касьць-мі | рэч-амі, рач-мі |
| Мéс. | касьц-ёх | рэч-ах |

§ 35. Увагі аб склонах.

1) *Родны склон* мн. л. мае канчатак *ей*, *ой* (не пад націскам *ай*, *аў*): касьц-éй, пéч-аў, рэч-аў, ноч-аў і г. д.

2) *Творны склон* апрача паказаных у прыкладах канчаткаў мае часамі—ма: касьцьма, саньма і г. д.

3) *Клічны склон* заўсёды аднолькавы з назоўным у абодвух ліках, як і ў іменьнях жан. р. на *а*.

§ 36. Маці скланяецца гэтак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наз. | маці | Він. | маці |
| Род. | маці | Тв. | — |
| Дав. | маці | Мéс. | маці |

Клічны маці.

У множным ліку знаходзім маці толькі ў Наз. Він. і Кл. скл.

У тых склонах, дзе ня ўжываецца маці, яго замяняе матка: маткаю, матак і г. д.

§ 37. *Вінавальны склон* імéньняў, што азначаюць чалавéка, зьвéра і наагул нéшта жывое, аднолькавы з родным склонам у муж. р. адзіночнага ліку: бачу брата, мужа, паю каня. Імéньні, што азначаюць няжывое, маюць вінав. склон

*) здараюцца часта і гэткія формы, як косьцю, рэччу і г. д.

аднолькавы з назоўным: нясі стол, сячы дуб, мéць рубéль (хоць часамі і сячы дуба, мéць рубля).

У множным ліку толькі імéньні, што азначаюць чалавéка, асобу, маюць він. скл. аднолькавы з родным; усé іншыя— аднолькавы з назоўным: бачу братоў, люблю сваіх сёстраў, але ганю валы, паю коні, лаўлю авéчкі і г. д., як роблю сталы, сані, бачу хаты і інш.

---

# Прымéта.

**§ 38.** Прымéтаю называецца часьціна мовы, што мае рады (муж., жан. і ніякі) і скланяецца: сьвяты, сьвятая, сьвятое; сіні, сіняя, сіняе і інш.

**§ 39. Прыклады.**

1) Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | сьвят-ы | сьвят-ая | сьвят-ое |
| Р. | сьвят-ога | сьвят-ое (й) | сьвят-ога |
| Д. | сьвят-ому | сьвят-ой | сьвят-ому |
| В. | як Н. або Р. | сьвят-ую | як Н. |
| Т. | сьвят-ым | сьвят-ою (ой) | сьвят-ым |
| М. | сьвят-ым | сьвят-ой | сьвят-ым |

Лік множны.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | сьвят-ыя | для ўсіх р. |
| Р. | сьвят-ых | |
| Д. | сьвят-ым | |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | сьвят-ымі | |
| М. | сьвят-ых | |

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | бос-ы | бос-ая | бос-ае |
| Р. | бос-ага | бос-ае (ай) | бос-ага |
| Д. | бос-аму | бос-ай | бос-аму |
| В. | як Н. або Р. | бос-ую | як Н. |
| Т. | бос-ым | бос-аю (ай) | бос-ым |
| М. | бос-ым | бос-ай | бос-ым |

Лік множны

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | бос-ыя | В. | як. Н. або Р. | для ўсіх р. |
| Р. | бос-ых | Т. | бос-ымі | |
| Д. | бос-ым | М. | бос-ых | |

Так сама зьмяняюцца прымéты з мягкім зычным перад канчаткамі:

3) Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | сін-і | сін-яя | сін-яе |
| Р. | сін-яга | сін-яе (яй) | сін-яга |
| Д. | сін-яму | сін-яй | сін-яму |
| В. | як Н. або Р. | сін-юю | як Н. |
| Т. | сін-ім | сін-яю (яй) | сін-ім |
| М. | сін-ім | сін-яй | сін-ім |

Лік множны.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | сін-ія | В. | як Н. або Р. | для ўсіх р. |
| Р. | сін-іх | Т. | сін-імі | |
| Д. | сін-ім | М. | сін-іх | |

§ 40. Калі націск прыходзіцца на канчатак, то ў родным склоне—óга, калі націск ня прыходзіцца на канчатак, а на аснову, то — ага: сьвяты — сьвятога, добры — добрага, сіні—сіняга, вялікі—вялікага і г. д.

§ 41. Тыя прымéты, што азначаюць *якасьць* (на пытаньне *які?*), могуць мéць тры ступéні гэтае якасьці, або тры ступéні прыраўнаваньня:

1-ая ступéнь *звычайная*: зялёны, ая, ае, вялікі, ая, ае;

2-ая ступéнь—*вышэйшая*: зелянéйшы, вялікшы;

3-ая ступéнь—*найвышэйшая*: найвялікшы, найзелянéйшы, або самы зялёны, самы вялікі, ці за ўсіх найзелянéйшы, ад усіх найвялікшы і г. д.

Некаторыя прымéты маюць няправільныя ступéні прыраўнаваньня: добры—лéпшы, найлéпшы; благі—горшы, найгоршы: малы—мéншы, наймéншы.

Задачка. 1. Праскланяйце:

Сіні, чорны, горкі, салодкі, тоўсты, глухі.

2. Напішэце ступéні прыраўнаваньня:

Новы кажух, зялёны сад, вялікі бор, цёплая шапка, шырокае поле, глыбокае мора, сьляпы конь, благі сон, сухі хлéб.

# Чысло.

**§ 42.** Адны чыслы паказаваюць лік (на пытаньне *колькі?*) і называюцца лічнымі, другія—парадак (на пытаньне *каторы?*) і называюцца парадкавымі.

| *Чыслы лічныя.* | *Чыслы парадкавыя.* |
|---|---|
| 1 адзін, адна, адно | пе́ршы ая, ае |
| 2 два, дзьве́, два | другі „ „ |
| 3 тры | трэці „ „ |
| 4 чатыры | чацьве́рты „ „ |
| 5 пяць | пяты „ „ |
| 6 шэсьць | шосты „ „ |
| 7 се́м | сёмы „ „ |
| 8 восем | восьмы „ „ |
| 9 дзе́вяць | дзевяты „ „ |
| 10 дзе́сяць | дзесяты „ „ |
| 11 адзінаццаць*) | адзінаццаты „ „ |
| 12 дванаццаць | дванаццаты „ „ |
| 13 трынаццаць | . . . . |
| 14 чатырнаццаць | . . . . |
| 15 пятнаццаць | . . . . |
| 16 шаснаццаць | . . . . |
| 17 семнаццаць | . . . . |
| 18 восемнаццаць | . . . . |
| 19 дзевятнаццаць | . . . . |
| 20 дваццаць | дваццаты |
| 21 дваццаць адзін | дваццаць пе́ршы |
| 30 трыццаць | трыццаты |
| 40 сорак | саракавы |
| 50 пяцьдзесят | пяцьдзесяты |
| 60 шэсьцьдзесят | шэсьцьдзесяты і г. д. |
| 70 се́мдзесят | . . . . |
| 80 восемдзесят | . . . . |
| 90 дзе́вяцьдзесят | . . . . |

---

*) Ужываюцца таксама формы: адзінанцаць, двананцаць, трынанцаць, чатырнанцаць і г. д., а таксама адзінанцаты, двананцаты, трынанцаты і г. д.

| | | |
|---|---|---|
| 100 | сто | соты |
| 101 | сто адзін | сто пéршы |
| 200 | дзьвéсьце | двухсоты |
| 300 | трыста | трохсоты |
| 400 | чатырыста | чатырохсоты |
| 500 | пяцьсот | пяцьсоты |
| 600 | шэсьцьсот | шэсьцьсоты |
| 700 | семсот | семсоты |
| 800 | восемсот | восемсоты |
| 900 | дзевяцьсот | дзевяцьсоты |
| 1000 | тысяча | тысячны |
| 2000 | дзьвé тысячы | двухтысячны |
| 1,000,000 | міліён | міліённы |

---

§ 43. Чыслы парадкавыя зьмяняюцца падобна да прымéты: пéршы, пéршая, пéршае, пéршага, пéршае і г. д.

Чыслы лічныя зьмяняюцца часта падобна да імя, часамі падобна да прымéты.

§ 44. **Адзін, адна, адно.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | адзін | адна | адно |
| Р. | аднаго | аднаé, аднэй | аднаго |
| Д. | аднаму | аднэй | аднаго |
| В. | як Н. або Р. | адну | як Н. |
| Т. | адным | аднэй (ю) | адным |
| М. | адным | аднэй | адным |

Лік множны (для ўсіх радоў).

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | адны | В. | як Н. або Р. |
| Р. | адных | Т. | аднымі |
| Д. | адным | М. | адных |

§ 45. **Два (муж. і ніякі р.), дзьвé (ж. р.).**

| | | |
|---|---|---|
| Н. | два | дзьвé |
| Р. | двух (двох) | дзьвюх (дзьвёх) |
| Д. | двум (двом) | дзьвюм (дзьвём) |
| В. | як Назоўны або Родны | |
| Т. | двума (двома) | дзьвюма (дзьвёма) |
| М. | двух (двох) | дзьвюх (дзьвёх) |

Так сама, як *два*, *дзьве*, скланяюцца абодва, абедзьве: абодвух, абедзьвюх і г. д.

Падобна тры, чатыры: тры, трох, тром, трыма, трох; чатыры, чатырох, чатыром, чатырма, чатырох.

§ 46. Пачынаючы ад пяцёх і да трыццацёх числы скланяюцца гэтак:

| | | |
|---|---|---|
| Н. | пяць | трыццаць |
| Р. | пяцёх | трыццацёх |
| Д. | пяцём | трыццацём |
| В. | як Наз. або Род. | |
| Т. | пяцьма | трыццацьма |
| М. | пяцёх | трыццацёх |

Пачынаючы ад пяцьдзесят і да дзевяцьдзесят числы зьмяняюцца *як пяць*, або найчасьцей зусім не зьмяняюцца: з усімі пяцьдзесят людзьмі, з усіх дзевяцьдзесят снапоў і г. д.

§ 47. Сорак і сто.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | сорак | сто |
| Р. | сораку | сту |
| Д. | сараку | сту |
| В. | як Наз. | |
| Т. | саракма | стома |
| М. | сараку | сту |

§ 48. Числы 200, 300, 400 і далейшыя або зусім *не зьмяняюцца*, або зьмяняюцца гэтак: дзьвесьце, двухсот, двумстам, двумастамі і г. д.

§ 49, Абое, двое, трое.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | абое | двое | трое |
| Р. | абаіх, абайга | дваіх, двайга | траіх, трайга |
| Д. | абаім | дваім | траім |
| В. | як Наз. або Род. | | |
| Т. | абайма | двайма | трайма |
| М. | абаіх | дваіх | траіх |

Так сама чацьвёра, пяцёра і *далейшыя*: чацьвярох, чацьвяром, чацьвярма, чацьвярох (хоць часта яны зусім не зьмяняюцца).

§ 50. *Дробныя чыслы*, зложаныя з *поў*—паўтара (муж. і ніякі р.), паўтары (ж. р.), паўтрацьця, паўтрацьці не зьмяняюцца.

§ 51. Трэба ве́даць, што *абодва* ўжываецца для азначэньня толькі муж. і ніяк. р. (абодва браты, абодва вакны); *абе́дзьве*—толькі жаноцк. р. (абе́дзьве сястры, абе́дзьве сахі); *абое*—калі рады памяшаны (абое—рабое; кабыла лысая, жарабя рабое, зьеў воўк абое).

§ 52. Задачка. 1. Напішы словамі: 1.289, 3.478, 11.696, 953, 12,418; 1724-ы (тысяча семсот дваццаць чацьве́рты) 15.919-ы, 837-ы, 959-ы.

2. Прасклаьяй: адна саха, два валы, дзьве́ дошкі, трое сане́й, дзе́вяць братоў, сто дваццаць восем грыбоў.

---

# Займя.

§ 53. Займя ўжываецца заме́ста імя, пры́меты або чыс, ла (за-імя). Напрыклад:

Хадзіў ці доўга *ён* ці мала,
Ды толькі не́шта адзін раз
Бяда ў бары *яго* спаткала...
Во як казаў нам *сам* Тарас.

(Тутака *ён*, *яго*, *сам* заме́ста Тарас, Тараса).

Заме́ста „добры, бе́лы, малы", можам сказаць „такі, той"; заме́ста „пяты, дзесяты"—„той, гэны" і г. д.

§ 54. Вось часьце́й ужываныя займе́ньні:

1. *Асабовыя*: я, ты, ён, яна, яно; мы, вы, яны.

2. *Зваротныя*: сябе́ і ся (мыю-ся).

3. *Прыналежныя*: мой, твой, свой, нашы, вашы, іхны і інш.

4. *Паказальныя*: гэты, гэны, той, такі, гэткі і інш.

5. *Пытальныя*: хто? што? які? каторы? чый? і інш.

6. *Адносныя*: тыя самыя, што пытальныя, але бяз пытаньня.

7. *Азначальныя*: уве́сь, усякі, усяякі, кожны, сам, самы.

8. *Неазначальныя*: не́хта, не́шта, не́які і не́йкі, не́чый, хтось, штось, хтосьці, не́якісь, чыйсь і інш.

9. *Адмоўныя*: ніхто, нішто, нічый, ніякі, ніводны і інш.

*Увага*. Займе́ньні *я, мы* называюцца займе́ньнямі пе́ршае асобы; *ты, вы*—другое, *ён, яна, яно, яны* — трэцяе.

Займе́ньні скланяюцца, а некаторыя маюць і рады: мой, мая, маё; нашы, нашая, нашае і інш.

**§ 55. Асабовыя**: я, ты, мы, вы, ён, яна, яно, яны.

| | Лік адзіночны. | | Лік множны. | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | я | ты | мы | вы |
| Р. | мяне́ | цябе́ | нас | вас |
| Д. | мне́ | табе́ | нам | вам |
| В. | мяне́ | цябе́ | нас | вас |
| Т. | мною (ой) | табою (ой) | намі | вамі |
| М. | мне́ | табе́ | нас | вас |

| | Лік адзіночны. | | | Лік множны. |
|---|---|---|---|---|
| Н. | ён | яна | яно | яны |
| Р. | яго | яе́ | яго | іх |
| Д. | яму | ёй | яму | ім |
| В. | яго | яе́ | яго | іх |
| Т. | ім | ёю (ёй) | ім | імі |
| М. | ім | ёй | ім | іх |

**§ 56.** Сябе.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | — | В. | сябе́ |
| Р. | сябе́ | Т. | сабою (ой) |
| Д. | сабе́ | М. | сабе́ |

**§ 57. Мой, твой, свой, чый.**

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | мой | мая | маё |
| Р. | майго | мае́ (й) | майго |
| Д. | майму | маёй | майму |
| В. | як Н. або Р. | маю | маё |
| Т. | маім | маёю (ёй) | маім |
| М. | маім | маёй | маім |

Лік множны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | мае́ | В. | як Н. або Р. |
| Р. | маіх | Т. | маймі |
| Д. | маім | М. | маіх |

Так сама *чый, чыя, чыё*.

§ 58. **Сам, сама, само.**

| | Лік адзіночны. | | | Лік мн. |
|---|---|---|---|---|
| Н. | сам | сама | само | самі |
| Р. | самога | самае́ (ой) | самога | самых |
| Д. | самому | самой | самому | самым |
| В. | самога | самую | само | самых |
| Т. | самым | самою (ой) | самым | самымі |
| М. | самым | самой | самым | самых |

§ 59. **Той, тая, тое.**

| | Лік адзіночны. | | | Лік мн. |
|---|---|---|---|---|
| Н. | той | тая | тое | тыя |
| Р. | таго | тае́ (тэй) | таго | тых |
| Д. | таму | тэй | таму | тым |
| В. | як. Н. або Р. | тую | як Н. | як Н. або Р. |
| Т. | тым | тэй (ою) | тым | тымі |
| М. | тым | тэй (ой) | тым | тых |

§ 60. **Хто, што.**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | хто | што | В. | каго | што |
| Р. | каго | чаго | Т. | кім | чым |
| Д. | каму | чаму | М. | кім | чым |

§ 61. **Увесь, уся, усё.**

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | уве́сь | уся | усё |
| Р. | усяго | усяе́ (е́й) | усяго |
| Д. | усяму | усёй | усяму |
| В. | як Н. або Р. | усю | як Н. |
| Т. | усім | усёю (ёй) | усім |
| М. | усім | усёй | усім |

Лік множны.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | усé | В. | як Н. або Р. | для усіх р. |
| Р. | усіх | Т. | усімі | |
| Д. | усім | М. | усіх | |

§ 62. Такія займéньні, як нашы, гэны, кожны, які, такі і інш., скланяюцца як прымéты: нашы, нашага, нашаму і г. д.

§ 63. Увагі аб розных склонах.

1) Побач з формамі роднага склону адз. л. муж. і ніякага р. на — *о* (каго, чаго, яго і інш.) ужываюцца і формы на — *а* (кагà, чагà, ягà, тагà, усягà; чыйгà, майгà, твайга, свайга, а таксама слоў зложаных з гэтых займéньняў: сагàньня, сягàлета).

2) У творным склоне ж. р. формы на — ою, ёю звычайнéй у беларускай мове за кароткія формы на — ой, ёй.

3) Побач з формамі нашы, нашая, нашае ўжываюцца скарочаныя наш, наша, наша.

§ 64. Задача. Праскланяй:

Мой добры конь, гэты самы замок, сам гаспадар, увéсь хлеб, усялякая работа, сама гаспадыня, тая прыгожая краска, гэтае дзіця, маё дабро, чыё пяро, хто такі, што такое.

---

# Дзеяслоў.

§ 65. Дзеясловам называецца такое *слова*, што азначае *стан* (ляжаць, сядзéць, спаць) або *дзéяньне**) (браць, рубаць).

Дзеяслоў зьмяняецца ў часе, ліку і асобе.

§ 66. Часоў — тры: цяпéрашні, прошлы і будучы.

Напр.: я пішу (цяпéр. час)
я пісаў (прошлы час)
я буду пісаць } будучы час
я напішу }

Лікі — два: адзіночны і множны.

Напр.: я пішу, ты пішаш, ён, яна, яно піша (лік адз.); мы пішам, вы пішаце, яны пішуць (лік мн.).

---

*) Дзеля гэтага і называецца дзеясловам.

**Асобы** — тры: першая, другая і трэцяя.

Напр.: *я* пішу, *мы* пішам (1-я асоба); *ты* пішаш, *вы* пішаце (2-я асоба); *ён*, *яна*, *яно* піша, *яны* пішуць (3-я асоба).

§ 67. Зьмена дзеяслова ў часох, ліках і асобах **называецца спражэньнем.**

Пры спражэньні дзеяслоў зьмяняецца на **тры лады:** *абвестны, загадны і ўмоўны.*

Абвестны лад „абвяшчае" што было, што ёсьць і што будзе: хадзіў, хаджу, буду хадзіць і г. д.

Загадны лад выражае „загад" або просьбу, покліч, прасьцярогу ці што падобнае: нясі, зьмілуйся, баранеце, не паваліся і г. д.

Умоўны лад паказавае, што дзеяньне залежыць ад нейкае ўмовы: я зробіў-бы, пайшоў-бы і г. д. (каб хацеў, каб мог).

§ 68. Дзеясловы бываюць двух трываньняў: *закончанага і незакончанага.* Закончанае адказвае на пытаньне *што зробіць?* (прыйсьці, прынясьці, прачытаць, напісаць і г. д.); незакончанае—на пытаньне *што робіць?* (ісьці, чытаць, пісаць г. д.).

§ 69. Некаторыя дзеясловы могуць мець розныя *станы*, б'ю, біты, б'юся; роблю, роблены, роблюся; мыю, мыты, мыюся і г. д. Усе гэтыя дзеясловы маюць тры станы: *дзейны* (або актыўны), *залежны* (або пасыўны) і *сярэдні.*

Дзейны стан паказавае, што нейкая асоба або рэч сама нешта „дзеіць" і яе дзеяньне пераходзіць на другую рэч: куля *разьбіла* вакно, майстры *будуюць* дом і г. д. (разьбіла, будуюць—дзейны стан). Пасьля дзейнага стану можна паставіць пытаньне каго? што? (вакно, дом).

Калі-ж скажам: вакно *разьбіта* куляю, дом *будуецца* майстрамі, то будзем мець залежны стан. Пры ім стаіць пытаньне *кім? чым?* (куляю, майстрамі).

Сярэдні стан складаецца з дзейнага і займя—ся і азначае або *зваротнае* дзеяньне (мыюся, чашуся—мыю сябе, чашу сябе) або *супольнае* (цалуюся, сустракаюся—з кім? з чым?).

Ад іншых дзеясловаў нельга тварыць розных станоў: баяцца, сьмяяцца, ісьці, спаць і шмат падобных*).

§ 70. Такія формы, як лётаць, сядзець, ламаць, паваліцца, задумацца, магчы, сячы і інш. (на пытаньне *што робіць?* называюцца *неазначальныні формамі***). Яны не азначаюць ні часу, ні ліку, ні асобы, толькі паказаваюць названьне дзеяньня ці стану.

*Увага.* Побач з формамі на — *ць* ужываюцца формы на *ці*: лётаці, ламаці, хадзіці, задумаціся, валіціся і г. д.

§ 71. Цяперашні час для кожнае асобы абодвух лікаў мае асобныя канчаткі, напр.: няс-*у*, няс-*еш*, няс-*е(ць)*, няс-*ём*, няс-*іцё*, няс-*уць*; стаю, ста-*іш*, ста-*іць*, ста-*ём*, ста-*іцё*, ста-*яць*.

Дзеясловы, што маюць у канчатку 2 ас. адз. ліку—*еш*, а ў 3 ас. мн. л,—*уць* (юць), належаць да першага спражэньня, напр.: няс-*еш*, таўч-*эш*, няс-*уць*, таўк-*уць*; будз-*еш*, каж-*аш*, буд-*уць*, каж-*уць* (не пад націскам у мягкім складзе *е*, у цьвёрдым *а*).

Тыя дзеясловы, што маюць у 2 ас. адз. л. — *іш*,— *ыш*, а ў 3 ас. мн. л. — *аць*, — *яць*, належаць да другога спражэньня.

§ 72. Першае спражэньне.

1). *Асабовыя канчаткі пад націскам.*

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | няс-у | пяк-у |
| 2 | ас. | няс-еш | пяч-эш |
| 3 | ас. | няс-е(ць) | пяч-э(ць) |

Лік множны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | няс-ём | пяч-ом |
| 2 | ас. | няс-іцё | пяч-ыцё |
| 3 | ас. | няс-уць | пяк-уць |

*2) Асабовыя канчаткі не пад націскам.*

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | дума-ю | каж-у |
| 2 | ас. | дума-еш | каж-аш |
| 3 | ас. | дума-е(ць) | каж-а(ць) |

*) аб іх можна было-б сказаць, што яны *ніякага стану*.

**) інакш неазначальным ладам.

Лік множны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | дума-ем | каж-ам |
| 2 | ас. | дума-еце | каж-аце |
| 3 | ас. | дума-юць | каж-уць |

§ 73. Другое спражэньне.

1) *Асабовыя канчаткі пад націскам.*

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | сядж-у | крыч-у |
| 2 | ас. | сядз-іш | крыч-ыш |
| 3 | ас. | сядз-іць | крыч-ыць |

Лік множны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | сядз-ім | крыч-ым*) |
| 2 | ас. | сядз-іцё | крыч-ыцё |
| 3 | ас. | сядз-яць | крыч-аць |

2) *Асабовыя канчаткі не пад націскам.*

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | пал-ю | гавар-у |
| 2 | ас. | пал-іш | гавор-ыш |
| 3 | ас. | пал-іць | гавор-ыць |

Лік множны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | пал-ім | гавор-ым |
| 2 | ас. | пал-іце | гавор-ыце |
| 3 | ас. | пал-яць | гавор-аць |

*Увага.* Здараюцца і такія формы, як гоне, гавора, падобна да будзе, скажа і г. д.

§ 74. Прошлы час.

Лік адзіночны.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | ас. | я | нёс, нясла, нясло |
| 2 | ас. | ты | |
| 3 | ас. | ён, яна, яно | вёў, вяла, вяло і г. д. |

*Увага.* Часамі здараецца час *запрошлы:* я быў прынёсшы, зробіўшы, пайшоўшы і г. д. (перш, чымся што другое здарылася).

*) або: сядзём, баёмся, крычо́м, маўчом і г. д.

**§ 75. Будучы час.**

Мае дзьвé формы: *простую і складаную:* *) **я зроблю, я буду робіць.**

Простая форма спрагаецца так сама, як цяпéрашні час. Напр.: я зроблю, ты зробіш, ён зробіць; мы зробім, вы зробіце, яны зробяць.

Складаная форма зложана з будучым часам ад „быць“ і неазначальнай формай таго слова, што спрагаецца:

| Лік адзіночны. | | Лік множны. | |
|---|---|---|---|
| я буду<br>ты будзеш<br>ён будзе | робіць | мы будзем<br>вы будзеце<br>яны будуць | робіць |

*Увага.* Здараецца час *прадбудучы:* я буду пайшоўшы, буду ўстаўшы і г. д. (пéрш чымся што другое зробіцца).

**§ 76. Загадны лад.**

I Лік адзіночны.

1 ас. — — — — — — —
2 ас. няс-і бяр-ы
3 ас. хай (няхай) няс-é(ць), бяр-э(ць).

Лік множны.

1 ас. няс-éма, бяр-эма**)
2 ас. няс-éце бяр-эце
3 ас. хай (няхай) няс-уць, бяр-уць

| II Лік адзіночны. | Лік множны. |
|---|---|
| 1 ас. — — — | бра́зьнема |
| 2 ас. бразьні | бра́зьнеце |
| 3 ас. хай бразьне | хай бразнуць |

| III Лік адзіночны. | Лік множны. |
|---|---|
| 1 ас. — — | чуйма лійма |
| 2 ас. чуй лі | чуйце лійце |
| 3 ас. хай чуе хай ліé | хай чуюць хай ліюць |

---

*) дзеясловы закончанага трываньня маюць будучы просты: пайду, зроблю; незакончанага—будучы складаны: буду хадзіць, буду робіць.

**) могуць ужывацца і формы: нясéм, бярэм і г. д.

| IV Лік адзіночны. | | Лік множны. |
|---|---|---|
| 1 ас. | — — | кіньма е́жма |
| 2 ас. | кінь е́ж | кіньце е́жце |
| 3 ас. | хай кіне хай е́сьць | хай кінуць хай ядуць |

Другая асоба адзіночнага ліку мае канчаткі:

I. *і*, *ы* пад націскам — нясі, хвалі, калі, мані, мялі, сушы, бяры, памажы, валачы і інш.

II. *і* не пад націскам — вымі, бразьні, пісьні і інш.

III. *й* пасьля галоснага — дай, гуляй, ме́й, чуй, стой, крый, мый, шый і інш. (формы лі, ві, бі, пі замéста лій, вій, бій, пій).

IV. Зычны мягкі і ацьвярдзе́ўшы — кінь, сядзь, ле́зь е́ж, рэж, кале́ч, скоч, роб, прамоў, саромся і інш.

Калі да гэтых формаў даставім канчатак — *ма* (або *м*), то дастанем 1-ю асобу мн. ліку; калі дставім — *це*, то дастанем 2-ую асобу мн. ліку. Пры гэтым у дзеясловах, як нясі, бяры (бач I), бразьні (бач II) трэба зьмяніць *і* на *е*, *ы* на *э*: нясі, нясе́ма, нясѐце; бяры, бярэма, бярэце, бразьні, бразьнем (ма), бразьнеце і г. д.

Трэцяя асоба складаецца з *хай* або *няхай* і трэцяе асобы цяпѐр. часу: хай ён кажа, хай яны кажуць.

§ 77. **Умоўны лад** дастанем, прыставіўшы частку *бы* або *б* да прошлага часу: я пашоў-бы, зробіў-бы, прынёс-бы і г. д.

§ 78. Некаторыя дзеясловы зрастаюцца з зваротным займе́ньнем — ся: мыцца (мыць - ся), вучыцца (вучыць - ся) і інш. Пры спражэньні займя дадае́цца да слова: мыюся, мыешся і г. д. Толькі ў 3 асобе канчатак *ць-ся* зьліваецца ў *цца**): ён мыецца, яны мыюцца.

§ 79. Ад дзеяслова можна вывесьці другія часьціны мовы: дзеяслоўнае імя (стварыць—стварэньне), дзеяслоўную прымёту (чытаць—чытаючы (й), чытаючая, чытаючае; чытаўшы (й), чытаўшая, чытаўшае; чытаны, чытаная, чытанае) і дзеяслоўнае прыслоўе (сяджу *чытаючы*, прыду *прачытаўшы*).

---

*) Калі перад — ца стаіць зычны, то пішацца адно *ц*: здасца, ад'есца і г. д.

*Дзеясловунае імя* скланяецца так сама, як і кожнае другое імя: стварэньня, стварэньню і г. д.

*Дзеясловуная прымёта* мае рады і скланяецца як прымёта: чытаючы, чытаючая, чытаючае, чытаючага, чытаючаму і г. д. Але побач з гэтым яна мае часы, як дзеясловў: цяпёрашні (чытаючы, ая, ае) і прошлы (чытаўшы, ая, ае; чытаны, ая, ае).

*Увага.* Формы на—учы,—ючы—ўшы больш старасьвéцкія і кніжныя. У жывой мове ня скажуць, напр., „ад чытаючага чалавéка можна шмат вымагаць“, але „ад чалавéка, што чытае, можна шмат вымагаць“. У жывой мове скланяюцца толькі формы дзеясловунае прымёты на — ены і—ты: зроблены, зробленага, зробленаму і г. д.; біты, бітага, бітаму і г. д.; бітая, бітае, бітай і г. д.

*Дзеясловунае прыслоўе* мае два часы—цяпéрашні (чытаючы, лётаючы, пішучы, ходзячы, робячы) і прошлы (чытаўшы, лётаўшы, пісаўшы, хадзіўшы, робіўшы). Дзеясловунае прыслоўе не скланяецца і не спрагаецца*).

**§ 80.** Дзеясловы **есьці, даць, быць** маюць асобнае спражэньне.

| Лік адзіночны. | | | Лік множны. | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | éм | дам | ямо**) | дамо |
| 2 ас. | ясі | дасі | ясьцё | дасьцё |
| 3 ас. | éсьць | дасьць | ядуць | дадуць |

„Ем“—гэта цяпéрашні час, „дам“—будучы час.

„Быць“ мае ў цяпéр. часе толькі форму 3-е асобы адзін. ліку: ёсьць (або кароткае—ё). Будучы час: буду, будзеш, будзе і г. д.

Загадны лад: éж, дай, будзь; хай éсьць, хай дасьць, хай будзе; éжма, дайма, будзьма; éжце, дайце, будзьце; хай ядуць, дадуць, будуць.

Другія формы складаюцца звычайна.

**§ 81. Задачка 1.** Праспрагай у цяпéрашнім часе і аддзялі рыскаю асабовыя канчаткі дзеясловаў:

---

*) З чаго і падобна да прыслоўя.

**) Побач з формамі ямо, дамо, ясьцё, дасьцё, маем—ядзём, дадзём, ядзіцё, дадзіцё.

Жну, цягну, бяруся, тачу, лаўлю, гарую, цягаю, сушуся, валакуся, таўку, мушу, люблю, сяджу, бягу, магу, даю (даіць), даю (даваць), гнаю, гаю, строюся, крою, паю, пяю, мыюся, крыю, выю, шыю, лію, вію, б'ю, п'ю, гавару, варуся.

2. Праспрагай у будучым часе:

Пісаць, караць, гудзе́ць, гутарыць, зваць; перамяніць гэтыя дзеясловы так, каб можна было ад іх стварыць будучы просты (напісаць—напішу і г. д.).

3. Праспрагай у прошлым часе:

Нясьці, вязьці, плясьці, ісьці, сячы, таўчы, пячыся, кусацца мѐць.

4. Напішы гэтыя дзеясловы ў умоўным ладзе.

5. Напішы ў загадным ладзе:

Хваліцца, калоць, сушыцца, браць, памагаць, валачы, даць, мѐць, біцца, піць, кінуць, кале́чыць, прамовіць, сароміцца.

---

# Прыслоўе.

**§ 82.** Прыслоўе ёсьць нязьме́нная часьціна мовы, што азначае розныя акалічнасьці: ме́йсца, часу, прычыны, спосабу дзе́яньня.

Паводлуг гэтага прыслоўі дзе́ляцца на прыслоўі:

*ме́йсца* (на пытаньне—гдзе́?): там, туды, адтуль, адкуль, гэтта, гэнам, вун, блізка і інш.

*часу* (на пытаньне—калі?): цяпе́рака, сёньня, ле́тась, пазаўчора і інш.

*прычыны* (на пытаньне—чаму?): таму, чаму і інш.

*спосабу дзе́яньня* (на пытаньне —як?): добра, хутка, глыбака, вельмі, дужа і інш.

**§ 83.** Большасьць прыслоўяў — гэта акасьцяне́ўшыя формы зьме́нных часьце́й мовы: імя, прыме́ты, займя, чысла, дзеяслова.

Вось некаторыя прыслоўі ад розных склонаў:

1) добра, борзда, сьцюдзена і г. д., вось, як, так, колькі, толькі, не́льга, ле́тась, зараз, упе́рад, назад, уздоўж, удоўж,

удаўжкі, ушыркі, увышкі, увелькі, насустрэчу, наўзавады, нацямкі, нацянькі і інш.—усё гэта формы назоўнага і вінав. склону.

2) сёлета, сёньня, (сяго-дня), учора, заўтра, зраньня, змалку, здалёку, дагары, звонку і інш.— формы родн. склону.

3) памаленьку, пабеларуску і інш.— формы дав. склону.

4) разам, часам, сілком, кумілем, пехатой і інш. — формы твор. склону.

5) балазе, годзе, запраўды, наадзіноцы, потым, улетку, узімку, папацёмку, паасобку, напотым, уваччу, вонках і інш.— формы месанага склону.

Прыслоўі ад дзеясловаў: няма, нямаш (ня мае, ня маеш), загадзя, наўмысьля, адумысьля, спакваля (пачакаўшы), мусіць, відаць, можа, дзякуй, маўляў і інш.

Шмат прыслоўяў мае свае асобныя прыслоўныя канчаткі (ды, -дэю, -ма, -мі, -ль, -лі, -ка, -ку, -кі, -оў, -чы, -ча і інш.): куды, туды, усюды, тады, заўсёды; кудэю, тудэю, сюдэю; кудэма, сюдэма; бягма, ляжма, дарма, тойма; вельмі; адкуль, пакуль, дасюль, скуль; калі, ніколі: тутака, тамака, тутачка, тамачка, цяперака, ёсьцека, нямашака, толькі, колькі, гэталькі, далоўкі; дамоўкі; далоў, дамоў; надоячы; апрача, аберуч, насустрэч, некалісь, дзесь, калісь, некалісьці, дзесьці, калісьці; паадноўчы, двойчы, тройчы і шмат інш.

§ 84. Некаторыя прыслоўі маюць ступені прыраўнаваньня і зьмяняюцца так, як прыметы, ад якіх яны выводзяцца: зялёна, зеляней, найзеляней.

Вось прыслоўі, што маюць *няправільныя ступені прыраўнаваньня*:

добра—лепш, ляпей; найлепш, найляпей;
блага—горш, гарэй; найгорш, найгарэй;
многа, шмат—больш, балей; найбольш, найбалей;
мала—меньш, меней; найменш, наймен<br>ей.

§ 85. Задачка. Перапішы і падзялі вышэй пералічаныя прыслоўі (§ 83) на месныя, часоўныя і г. д.

# Прыймя.

§ 86. **Прыймя** азначае залéжнасьць паміж рэчамі або кірунак дзéяньня: кніжка ляжыць *на* сталé, вучань падыйшоў *да* дошкі і г. д.

Прыймя ня ўжываецца само па сабé, а найчасьцéй пры імі (дзеля чаго і называецца прыймя): *на* сталé, *пры* сталé, *пад* сталом, *з-за* стала і г. д.

Але прыймя можа стаяць і пры іншых часьцінах мовы.

Прыймя стаіць найчасьцéй пры адным склоне, радзéй пры двух або трох, напр.:

*пры родн.*— без, для, дзеля, да, з-за, з-пад, каля, апрача, у і інш. (без работы, для сусéда, дзеля сьвята, да хаты, з-за вугла, з-пад хаты, каля лугу, апрача таго).

*пры дав.*—к: к хаце, к лéсу (але часьцéй кажацца да хаты, да лéсу).

*пры він.*— пра, праз, цераз, скрозь, замéста, наўпроці і інш. (кажу пра тое, згінуў праз сваю нядбаласьць, ішоў цераз поле, скрозь хмары цёмныя).

*пры твор.*—над: над зямлёй.

*пры мéс.* — пры, па (пры дарозе, па лясох, па дарогах і г. д.).

*пры він. і тв.*—за, пад, перад, прад і інш. (за яго, за ім, пад стол, пад сталом, перад дом, прад дом, перад домам, прад домам).

*пры він. і мéс.*—у, на, аб і інш. (у лéс, у лéсе, на стол, на сталè, кінуць аб стол, гаварыць аб сталé).

*пры род., він. і мéс.*:—з (вярнуўся з работы, сабака ўвéлькі з ваўка, з сахою).

§ 87. Шмат у якіх словах прыймя так цéсна зраслося з асновай, што слова без яго зьмяняе або зусім траціць сваё значэньне: падарожны, пераход, прывычка, (але—ход,—дарожны значыць нéшта другое, а вычка нічога ня значыць).

Некаторыя прыймéньні зусім ня ўжываюцца асобна: уз,- раз,- вы,- пера,- су,- пра,- па,- (уздых, усход, разбор, расход, выгнаць, выйсьці, пераèхаць, сусéд, прадзед, пасынак).

З дзеясловам прыймя заўсёды злучаецца ў вадно непадзельнае слова: дагнаць, прамяніць, перакінуць, падыйсьці, прыдумаць, засумаваць, падгадаваць, наляцець, абхапіць, згаварыцца, сьцягнуць, узыйсьці, успомніць, разагнаць, раздаць, расказаць, выдумаць, пераняць, сустрэць і г. д.

Так сама з прыслоўем: запраўды, пазалетась, зараз, напавер, уздоўж, спадысподу, даволі, паасобку, потым і г. д.

§ 88. Задачка. 1) Напішы прыклады на тыя прыйменьні, што ня ўжываюцца асобна (уз-, раз- і г. д.).

2) Напішы такія іменьні, што зложаны з прыйменьнямі: за, да, уз, раз, без, з, прад, су, пра, на, ад, вы, пад, аб (засаўка, успамін і г. д.).

---

# Злуч.

§ 89. Злуч злучае розныя словы ў думцы або розныя думкі: былі ў іх сын *і* дачка; ня мей сто валоў, *а* мей сто другоў.

Вось найчасьцей ужываныя злучы: і, а, але, жа, абы, або, альбо, аж, ажно, ані, адно, няхай, хай, бо, да, ды, дык, аднолька-ж, навет, хіба, ці, няўжо, чымся, прынамся, хоць хаця, такі (ткі), калі, каб, чаго, чаму, таму, нашто, зашто, затое, затым, быццам, не, ні і шмат іншых.

Як можна бачыць у значэньні злучоў часта ўжываецца займя — што, чаго, чаму, такі і інш., часамі з прыйменьнямі — зашто, затое, нашто, натое і інш.

Некаторыя злучы выводзяцца з дзеясловаў: бадай (багдай — бог дай), быццам (ад „быць“), хай, няхай, хоць, хаця і інш.

У значэньні злуча могуць ужывацца так сама прыслоўі: калі, аднолька, прынамся і інш.

Задачка. Падчыркнуць злучы:

Пуста ў лузе, толькі стагі парыжэўшыя стаяць, ды шпакі каля дарогі цэлы дзень адно крычаць. Бачыш, быццам чалавек, векам малады. Жніво ярнае—гэта ўжо восень і, як той кажа, работак восем. А як надойдзе ўжо Пакрова, то не наесца ў полі карова, бо ўжо золкі ветрык павее, трава паожўкне і па-

чарнее. Часам, як у полі з коньмі начуеш, пяючы «восень» дзяўчат пачуеш і, сказаць праўду, дык, мой ты браце, ад гэнай песьні за сэрца хваце, бо яе тая працяжная нота, хоць сьлёзы гоніць, слухаць ахвота.

---

# Кліч.

**§ 90. Кліч** выражае ўчуцьцё або паказвае розныя зыкі, да якіх чалавек сваім голасам хоча прыпадобніцца, напр.: учуцьцё болю, радасьці, зьдзіўленьня: ай, аей! ого-го! ага! ах! ох! ух! а-ха-ха і г. д.; шшш! гаў-гаў-гаў! курняў! іга-га-га! ау-ау-ау! і інш.

Каб паказаць, што нешта канчаецца ў адзін мамэнт, ужываюцца асобныя формы клічу ад дзеяслова: хап, брык, бэнц, бох, бабух, хлюпсьць, грук, стук, бахець, хапець, мялькець, піхець, грымоць і інш.

III.

# Падзел слова.

## § 91. Карэнь, канчатак, прыстаўка, устаўка.

Словы—настольнік, застольны, стольніца, сталаўнік, сталяр — маюць карэнь *стол*; словы — засьцёнак, прысьцёнак, сьценны, сьцяна — маюць карэнь *сьцен*; словы — лёс, лясун, лясьнік, лесавік—маюць карэнь *лес* і г. д.

Каранёў дзяліць нельга.

**Карэнь ёсьць** *такая непадзельная часьць слова, ад* ***каторае можна*** *тварыць другія родныя паміж сабою* ***словы.***

Сам па сабе карэнь можа быць часам асобным словам—стол, лёс; але найчасьцей ён асобна зусім ня ўжываецца: сьцен-, лож-, вод- і г. д.

Каб пазнаць якія галосны стаіць у карані, трэба зьмяніць слова так, каб націск прышоўся на галосны: засьцён-ак, сьцён-ны (хоць у такім разе, як сьцяна, чуваць *а*).

Зычныя так сама могуць зьмяняцца стоячы ў канцы караня: воўк—воўч-а, дуг-а—дуз-е, лаўк-а—лаўц-ы, гарох — гарос-е, нарог—нароз-е, дарог-а—дарожн-ы і г. д.

Пры скланеньні і спражэньні апошнія склады слова зьмяняюцца: стал-а, стал-у, стал-ом, стал-е; стал-ы, стал-оў, стал-амі, стал-ох; маўч-у, маўч-ыш, маўч-ыць; маўч-ом, маўчыцё, маўч-аць і г. д. Гэтыя зьменныя склады таго самага слова называюцца *канчаткамі.*

Тая нязьменная часьць слова, што стаіць паміж каранём і канчаткам, называецца *ўстаўкай:* застоль-*н*-ы, застоль-*н*-ага, і г. д.; ляс-*ун*, ляс-*ун*-а і г. д.; гаспад-*ар*, гаспад-*ар*-а і г. д.

Кожная ўстаўка прыдае караню асобнае значэньне.

§ 92. Вось некаторыя ўстаўкі імя, прыметы і дзеяслова:

*1) Устаўкі іменныя:*

**ар. ец, ік, (ык), ок, цель, ыр, ун** і інш. азначаюць нешта ажыўленае, дзейнае: гаспад-ар, стал-яр, знах-ар, куп-ец, хлап-ец; лясьн-ік, муж-ык, язд-ок, вучы-цель, багат-ыр, скакун і г. д.

**іч, овіч, евіч** і інш. азначаюць патомкаў і фаміліі: Бабіч, Богдан-овіч, Марцінк-евіч.

**ць, асьць, ін(я), ын(я)** і інш. азначаюць словы непрадметныя жан. р. — памя-ць, люб-асьць, веліч-ыня, глыб-іня і г. д.

**л (а), ішч (а),- ышч (а), ств (о)** і інш., для азначэньня неажыўленых слоў ніяк. р.: мы-л-а, шы-л-а, вогн-ішч-а, пажар-ышч-а, хара-ств-о і г. д.

Некаторыя ўстаўкі прыдаюць слову павялічанае або паменшанае значэньне (*павялічальныя і памяншальныя* ўстаўкі) лап-ішч-а, лап-к-а.

Дужа часта памяншальныя ўстаўкі прыдаюць ласкавае значэньне слову: брат-к-а, сястр-ыц-а, лец-ейк-а і шмат інш.

*2. Устаўкі прыметныя:*

**к, ок, р, л, н, ав, ів, ат, іст, ав-ат, аньк, еньк, ан (ян), ов, ск** і інш.—лёг-к-і, глыб-ок-і, шчод-р-ы, вет-л-ы, вер-н-ы, ласк-ав-ы, міласьл-ів-ы, зуб-ат-ы, зярн-іст-ы, бел-ав-ат-ы, добр-аньк-і, дараг-еньк-і, мядз-ян-ы, ял-ов-ы, гаспадар-ск-і і г. д.

*3. Устаўкі дзеяслоўныя:*

**ну — н —** цяг-ну-ць, цяг-н еш;
**і — е —** хвал-і-ць, сядз-е-ць;
**а — я —** бр-а-ць, се-я-ць;
**ава — у*) —** баран-ава-ць, баран-у-ю, **гандл-ява-ць**, гандл-ю-ю і г. д.

*) Як баран-ава-ць, баран-у-ю, дужа часта здараецца расказаваць — расказую, перапісаваць — перапісую і г. д. заместа перапісаваю, расказаваю або перапісваю, расказваю.

Тыя прыйме́ньні, што неразьдзе́льна зрасьліся з словам называюцца прыстаўкамі: на-стаўнік, па-ставіць, за-гадка, уз-рост, усь-цягнуць, пера-ход, а-сьцярожны, ад-біць, па-ма-ле́ньку, на-ўце́кі і г. д.

Карэнь злучаны з прыстаўкай і ўстаўкай называецца асновай слова. Такім парадкам пры склане́ньні і спражэньні дадаём канчаткі да асновы слова.

Апрача слоў простых, што маюць толькі адзін карэнь, ёсьць словы складаныя, што маюць два карані: палу-дзень, поў-нач, пара-ход, люда-е́д, нач-ле́г і шмат інш.

Задачка. Падзялі на часьці і напішы карэнь кожнага слова:

Гародчык, вада, краска, лявоніха, мяце́ліца, нядоля, Беларусь, беларускі, красавік, веснавы, ме́сяц, пляме́ньнік, звада, вучыцель, вучыцелька, землякоб, панядзе́лак, асьцярожны, ле́ташні. Няма служкі для пастушкі.

IV.

# Правапіс.

**§ 93.** Правапіс дае нам правілы, як трэба пісаць у тых разох, калі пішацца ня так, як чуваць.

У беларускім правапісе трэба ве́даць перад усім два найпе́ршыя правілы: адно аб пісаньні галосных, другое — зычных.

*Галосныя* так пішуцца, як вымаўляюцца: сталы, валы, сьцяна, лясы і г. д. (а не сьцена, лесы, столы, хоць карані слоў: стол-, вол, сьцен-, лес-).

*Зычныя,* наадварот, пішуцца гле́дзячы на тое, які зычны ў карані, прыстаўцы ці канчатку: мёд, калодка, падтрымаць, мыешся і г. д. (а ня так, як чуваць — мёт, калотка, паттрымаць, мыесься — дзеля таго, што карэнь мё*д*-, коло*д*-, прыстаўка — по*д*, канчатак — *ш**)

Ад гэтых правілаў здараюцца дзе-ня-дзе́ адступле́ньні.

**§ 94. Галосныя.** *Аканьне.* Галосны *о* можа быць тольکі пад націскам; ва ўсіх іншых складох *о* замяняецца на *а*: дом, стол, гарод, водны, вокны, дабр*о*, але д*а*мы, ст*а*лы, г*а*рады, в*а*да, в*а*кно, сэрц*а* і г. д.

На *а* замяняецца і кожнае *э* ў цьвёрдым складзе (пасьля цьвёрд. зыч.): (р*а*ка, ц*а*на, пераме́на, каж*а*т (хоць пад націскам — э: рэкі, цэны, кажэце).

У *мяккіх* складох *перад* націскам *е* замяняецца ня *а* (*я*) не заўсёды.

У трэцім, чацьве́ртым і дале́йшых складох (лічачы ад націску да пачатку слова) *е* не замяняецца ніколі на *а* (*я*): верацяно, без верацяна; не выпускай і г. д.

---

*) Гэта відаць зьмяніўшы слова: мё*д*у, кало*д*а, па*д*ыйсьці, мые*ш*.

У другім складзе — толькі тады *е* замяняецца на *а* (*я*), калі ў першым няма *а*: лясуна́, бядуна́, нявучо́ны, ня была́, бяз дзіцяці і г. д. Калі-ж у першым складзе ёсьць *а* (*я*), то ў другім пішацца *е*: цецярук, лесавік, не знайшла, не магу не хачу, без мяне́ і г. д.

У першым складзе заўсёды бывае *а* (*я*): бяда, дзяжа вяду, зялёны, няма, няхай, ня буду, бяз нас, бяз духу і г. д.

*Увага.* 1. **Не** і **без** у гэтым разе лічацца за склад таго слова, перад якім яны стаяць.

2. Склады тут лічацца ад націску да пачатку слова такім парадкам: ля(2)-су(1) на̀ (су — першы склад, ля — другі). Так сама: без(4) ве(3)-ра(2)-ця(1)на̀ і г. д.

У мягкіх складох *пасьля* націску пішацца *е*: восень, возера, ве́церь, вучыцель, у хаце, у садзе, поле, ле́цейка, сіняе (не́ба), сіненькі, тое, думаеш, будзе і г. д.

З гэтага правіла выключаюцца такія разы, як:

1) памяць, ме́сяц, дзе́вяць, дзе́сяць, дзе *а* ў аснове, або дзе *а* канчатак іме́ньняў жан. р. (гаспадыня, паня, як зямля), або дзе *а* з *о*: дзе́дзя*) (з дзе́дзё) і інш.

2) формы роднага скл. адз. л. мужч і ніяк. р. на *а*: вучыцеля, вучня, поля, зе́льля і г. д.

3) формы родн. скл. мн. л. усіх трох радоў на — *аў*: прыяцеляў, зе́мляў, гоняў і г. д.

4) формы дав., твор. і мѐс. склону мн. л. ўсіх трох радоў на — *ам*, *амі*, *ах*: вучням, зѐмлям, здарэньням, прыяцелямі, зѐмлямі, здарэньнямі, прыяцелях, зе́млях, здарэньнях.

5) формы пры́ме́таў назоўнага склону адз. л. жаноц. і ніякага роду: сіняя вада, добрая галава, сіняе мора і г. д.

6) формы родн. і давал. скл. пры́ме́таў мужч. і ніяк. роду: сіняга, сіняму і інш. (як яго, яму).

7) родны склон пры́ме́ты жаноцкага роду: сіняе воды, добрае кніжкі і г. д., (як яе́, тае́).

8) назоўн. і вінав. склон пры́ме́ты мн. л. ўсіх трох радоў: добрыя, зялёныя, чырвоныя, каме́нныя і г. д.

---

*) але ў такіх старых формах, як вароцех, боцех, пішацца *е*.

9) формы 3 ас. мн. л. дзеясловаў 2 спраж.: ходзяць, носяць, водзяць і г. д.; так сама дзеясловная прымета і прыслоўе: ходзячы, водзячы, носячы і г. д. (бо яны выводзяцца ад 3 ас. мн. л.: ходзяць, носяць, водзяць).

10) займéньне — ся: робішся, гонішся і г. д.

Калі *е* пад націскам, то на ім трэба ставіць знак націску: хлéб, нéба і г. д.*).

Такім парадкам, літара é азначае выразны націснуты галосны, так сама як *о*: камéньне, голад.

Літара *е* азначае ненаціснуты гук або шырэйшы за é (бліжэй да а), або вузéйшы (бліжэй да і): у садзе, сіненькі.

Не, без, перад, пера і інш. падпадаюць пад агульнае правіла аб аканьні: няшчасьце, няволя, бяздомны, бязрадны, непачэсны, безгалосы, перадплата, перавоз і г. д. Так сама калі *не, без, перад, цераз* стаяць перад другім словам, але пішуцца асобна: ня дам, ня вéдаю, бяз хлéба, бяз нас, перад ім, не давéдаўся, без гаворкі і г. д.

**Задачка.** Перапішы і замéста крыжыка пастаў *а* (*я*) або *э* (*е*).

**Н╳ прывéтна цер╳з вокны ночка п╳зіра╳. Ціх╳ ў хац╳ — ўся самéйка сьпіць ды спачыва╳, натрудзіўшы добр╳ рукі, нат╳міўшы плéчы. Толькі матка з в╳р╳цéнц╳м прытулілась к пéчы і прадзè, прадзé кудзéльку. Скач╳ в╳рацéнц╳, а за ёй густы╳ цéні бéгаюць па сьцéнцы. На камінку корч пыла╳, злот╳м іскры скачуць. За ваконц╳м вéц╳р ходзіць, глух╳ вéрбы плачуць. Зябнуць вéрбы на мароз╳, прытуліўшысь к стрэс╳: сьнéгам вéц╳р сып╳ ў дзьвéры, ходзіць шум па лéс╳. І пад дэты шум трывожны дума╳ стара╳, а ў сьлéд думкам н╳спакойна вец╳р падп╳ва╳.**

**Вучыс╳ н╳бож╳, вучэньн╳ памож╳ змагацца з н╳дол╳й, з н╳вол╳й... Што мучыць с╳гоньня, што думкі трывож╳, —зьбяжыць і н╳ прыйдз╳ ніколі.**

**Жаль згін╳, як мара; н╳ будз╳ш н╳здарай, нідзé і ні ў чым н╳ заблудзіш; ты праўду ў н╳праўдзе, як сонца між хмар╳ў, спазна╳ш, як цём╳н н╳ будз╳ш.**

---

*) такія словы, як ***перад, цераз, але, без, дзеля,*** свайго націску ня маюць, становячы быццам часьць таго слова, перад якім яны стаяць, дзеля гэтага над імі ня ставіцца знак націску: перад нàмі, цераз хату, але так нéльга, бяз нас, дзеля таго і г. д. Калі-ж ***але*** азначае пацьвярджэньне, то яно мае націск: ці ў цябé мая кніжка? — **алé.**

Така× прынука, як праца й навука, ці-ж мож× нам сіл не дадаці? З такімі с×брамі, знай, будз× н× штука і гор× сваё зваяваці.

Навука дае́ ч×лаве́ку розум. Чужым розумам ве́к н× п×р×жыве́ш. В×ўка ногі кормяць.

**§ 95.** У *чыслах* аканьне праве́дзена ня поўна. Чыслы складаныя пішуцца так, як кожная часьць, калі яна ўжываецца асобна: семнаццаць, восемнаццаць, шэсьцьсот, восемсот і інш. Толькі шаснаццаць мае *а* заме́ста *э*, што чуваць у слове шэсьць. Парадкавыя маюць такі галосны, які ў лічным: дзе́вяць—дзевяты; дзе́сяць дзесяты і г. д.

**§ 96.** ***Галосныя ў канчатку дзеясловаў 1-га і 2-га спраж.*** Калі націск прыходзіцца на канчатак, то галосныя, будучы пад націскам, чуваць ясна і заўсёды аднолькава.

*1 спраж.* Няс-у, няс-е́ш, няс-е́(ць), няс-ём, няс-іцё, няс-уць, бяр-у, бяр-эш, бяр-э, бяр-ом, бяр-ыцё, бяр-уць.

*2 спраж.* Сядж-у, сядз-іш, сядз-іць, сядз-ім, сядз-іцё, сядз-яць; маўч-у, маўч-ыш, маўч-ыць, маўч-ым, маўч-ыцё; маўч-аць.

Тутака трэба заўважыць толькі тое, што, калі націск на канцы, то ў 2 асобе мн. л. дзеясловы абодвух спражэньняў маюць у канчатку *і*, *ы*: нясіцё, бярыцё, так сама, як сядзіцё, гарыцё.

Калі-ж націск не на канцы, то ў першым спраж. маем *е* (пасьля цьвёрдых *а*), у другім *і* або *ы*: думаеце, кажаце; носіце, гаворыце і г. д.

Калі націск прыходзіцца на канчатак, то адразу відаць, якое спражэньне: ідзе́ш, сядзіш, гарэш, маўчыш і г. д. Тутака ясна, што пісаць.

Але калі націск ня прыходзіцца на канчатак, то тады трэба глядзе́ць, што стаіць у канчатку неазначальнае формы. Калі стаіць *і* або *ы*, то гэта дзеяслоў 2-га спраж.*), і ўсюды трэба пісаць *і*, *ы*, а ў 3 ас. мн. л. *а*: мал*і*ць—моліш, моліць, молім, моліце, моляць; вар*ы*ць,—варыш, ва̀рыць, ва̀рым, ва̀рыце, вараць. У праціўным разе, гэта дзеяслоў 1-га спраж.

---

*) Але ў такіх, як кры-ць, мы-ць, вы-ць, шы-ць, ры-ць, *ы* адносіцца да караня: гэтыя дзеясловы 1-га спраж. — крыеш, крые, крыем, крыеце, крыюць, мыеш, мые, мыем, мыеце, мыюць і г. д.

і ўсюды трэба пісаць *е* (у цьвёрдым складзе *á*), а ў 3 ас. мн. ліку *уць*: ве́даць—ве́даеш, ве́дае, ве́даем, ве́даюць; казàць — кажаш, кажа, кажам, кажаце, кажуць.

Дзеяслоўныя прыме́ты і прыслоўі выводзяцца ад 3 асобы мн. л., дзеля чаго ў пе́ршым спраж. канчаюцца на — *учы*, — *ючы*, у другім на—*ачы*,—*ячы*: яны кажуць, мыюць — кажучы, мыючы, яны гавораць, стаяць—гаворачы, стоячы.

Аб формах загаднага ладу бач вышэй § 76.

*Увага.* Калі націск на канчатку, то ў дзеясловах 2-га спр. ў форме 1-ае асобы мн. ліку побач з формамі на *ім*, *ым* могуць ужывацца формы на *ём*, *ом*, як у 1-ым спраж.: стаім, сядзім, маўчым, крычым і стаём, сядзём, маўчом, крычом і г. д.

Задачка. Перапішы і замяні крыжыкі літарамі:

Карагоды зорак у гары міга╳ць, а ў нізе сьняжынкі срэбрам адліва╳ць. Маці свайго сына це́шыць, забаўля╳. Ты мне́ расскаж╳ш, як будз╳це робіць. Касцы пяялі апрана╳чыся на пракосах. Цярпе́ньнем і працай горы перанос╳ць. Падзяр╳це рызьзё на істужкі і сатчэче рызоўку. Расчын╳це дзьве́ры. Разьве́йся туман, расплыв╳цеся хмары! Жалем сьціска╳цца грудзі. На Саракі мужык пыта╳цца ці далёка да ракі. Калі не нае́ўся, то і не наліж╳шся. І сава сваé дзе́ці хвал╳ць. Кінь прад сабой, знойдз╳ш за сабой. Цыган, як гале́╳, то сьмяле́╳. Голад і холад муч╳ць людзе́й. Калі ма╳ш гаруд жыта—будуйся. Новае сіта на калку вісіць, а старое пад лаўкай наваля╳цца.

§ 97. *Звонкія зычныя* на канцы слова і перад глухім страцілі сваю звонкасьць. Але хоць і чуваць боп, лёт, лотка, дзяцька, мох, лёхка, дошч і г. д., аднолька-ж пішам боб, лёд, лодка, дзядзька, мог, лёгка, дождж і г. д. (бо ў другіх разох, зьмяніўшы слова так, каб пасьля яго стаяў галосны, знойдзем бобу, лёду, лодачка, дзядзіна, магу, лёгенькі, даждж у і. г. д.

Так сама трэба пісаць і прыйме́ньні ад, пад, над, прад, перад незале́жна ад таго ці яны пішуцца разам з якім словам ці асобна: ад хаты, адхінуць, пад сонцам, падцягнуць, над хатай, надхадзіць, пад сталом, прадстаўнік і г. д.

Усé прыйме́ньні, што канчаюцца на *з* —з, без, уз, раз,— калі яны пішуцца *з* якім словам разам, то перад глухім зычным (п, т, ц, ч, х, с, ш) замяняюць *з* на *с*, а перад звонкім

пакідаюць з: сходзіць, усходзіць, расьпіць, але — згінуць, бяздомны, узгадаваць, разьбіць і г. д. Значыцца тутака трэба пісаць, як чуваць.

Але калі з і без пішуцца асобна, то ніколі з на с не замяняецца: з хаты, бяз хлеба і г. д. Так сама пішацца і цераз: цераз ток.

**Задачка.** Перапішы і заместа крыжыка пастаў літару.

У гародзе расьце бо×. Цэ× вісіць у гумне. У Адама высокі ло×. Ло× яго ла×кай па плячох. Поўная лу×ка збожжа. Хлё× на стале, рукі сваё. Важыш на ры×ку, важ і на юшку. Не адарві поча×кі ад калыскі

Іду па кла×цы. Мё× сало×кі. Сабака зьнюхаў сьлё×. А×кла× ня йдзе ў ла×. Ты бра× мой, ёж хлеб свой. Гэта квё×ка не для твайго носу. І я быў калісь мола×. У каваля цяжкі мола×. Улетку люблю цябе, дзетку, а зімой зьем хлеб з свіньнёй.

Сёлета гарох стручны. Адзін наро× прытупіўся. У мядзьвядзя ёсьць бярло×. Для цяляці адгароджаны кату×. Пасту× сьцяро× авечкі. Мне лё×ка на сэрцы. Ён едзе ўлё×цы. Начлёжнікі паехалі на начлё×. Якая дра×кая дарога. Ты мо× дзерці мо×.

У Слуцку ўсё палю×ку. А×дай сваё грама×кай справе. Слу×кія паясы вельмі харошыя. Тутака былі ваяво×кія палацы. Пола×кія князі — беларускія. Навагру×кі і Ашмянскі павеґы—сумежныя між сабой. Ксён× паехаў да хворага. Купе× купіў лён.

Лё× падняў гэты камень. У восень капаюць рэ×ку. Хвалько нахваліцца, а бу×ка набудзецца. Ба×кі гадуюць дзяцей. Ме× дастаюць з зямлі. Ня ва×цеся, людзі, бо ўсім блага будзе.

На страсе мох выра×, на моху бяро×ка, мілей свая хатка, як чужая вё×ка. Бегала лі×ка каля лесу блі×ка. Бабуля ўмее ра×казаваць цікаўныя ка×кі. Вось улё× у густы лё×! Пола× прымерз да сьнегу. Бэ× пахне. Кожны бе× цягне ў лё×. Зьлё× з таго дрэва. Гу× крычыць на двару. У драбіне зламалася во×.

Каб ня е×ка, не адзе×ка, дык была-бы грошай дзе×ка. Праз Беларусь ісҭу×кай ліецца рака Нёман. Жнейка ця×ка працуе. Пту×ка зачапілася но×кай за волас сіла. Ля дарогі стаіць кры×. У краме прадавалі ры×. Пайшла гуляць качарэ×ка. Котка злавіла мы×ку. Калі ўзяўся за гу×, не кажы, што ня ду×.

На× хатай лётае каршун. Пера× імі пакланіся. Сноп а× снапа на дзьве стапы. Жораў × цяплом, ластаўка × лістом. Па× табой каня забілі. Ра×мяні мне грошы. Ра×капай

яму. **Зоркі** ра╳сыпаліся на нéбе. **Бацька** ў╳хапіўся, абуў боты і, ра╳чыніўшы дзьвéры, выйшаў на панадворак. Бе╳ дабра ня будзе дабра. Бя╳ часу ня будзе квасу.

§ **98. Глухія зычныя** перад **звонкімі чуваць, як звонкія**: ка*зь*ба, про*зь*ба, гарад*зь*ба, пяд*зь*дзесят і г. д. Тутака пішам ня так, як чуваць: **ка*сь*ба**, про*сь*ба, пя*ць*дзесят (за тое, што маем касіць, прасіць, пяць).

**Задачка.** Гарба, мала╳ба і ка╳ба—цяжкія работы. Наш дзéд **ужо** слабы ў ха╳бе. Прасі Бога, каб про╳ба дайшла да нéба. Дзядуля сядзіць на пры╳бе. Ка╳біт косіць сéна. Мала╳біты пайшлі дамоў. У капé шэ╳дзесят адзінак. Майму бацьку пя╳дзесят шэ╳ гадоў.

§ 99. *Перад мягкімі зычнымі* і *ь* з, с, ц, дз, зьмягчаюцца: **зьняць, сьляза, цьвіцéц, дзьвé,** зьéхаць і г. д. Толькі перад *г, х, к* **яны не зьмяняюцца.**

**Задачка.** Перапішы і **замéста крыжыка** пастаў з, с, ц, дз або зь, сь, ць дзь

Купéц зарабіў ╳вéсьце рублёў. Маці ╳хінулася над дзіцянём. ╳віршня штось папсавалася. ╳кінь гэтае рызьзё. У прочкі ╳бірайся, а жыта сéй. Пустой птушкі пустыя й пéсьні. Вучань прачытаў ╳вé кнігі. Ні сьцяты, ні павéшаны. Узімку ╳вéры хаваюцца ў норы. ╳ліна бывае зара╳лівая. Ня рыпайце ╳вярыма. Шкло якоесь ╳мяннае. Яблыны ╳вітуць бéлым ╳вéтам.

§ **100**. Злучэньні **тц, чц** чуваць як **цц**, а злучэньні **тч, дч**, як чч —

| *чуваць:* | **пішацца:** |
|---|---|
| маццы | матцы |
| даццы | дачцы |
| загаччык | загадчык |

і г. д.

Злучэньне **дс** дае ў вымове **ц**, хоць пішацца дз —

| *чуваць:* | пішацца: | замéста: |
|---|---|---|
| люцкі | людзкі | людскі |
| швэцкі | швэдзкі | швэдскі |

і г. д.

Злучэньне **тс** дае **ц** —

| *чуваць* і пішацца: | замéста: |
| --- | --- |
| полацкі | полатскі |
| брацкі | братскі |
| брацтва | братсва |

і г. д.

Злучэньні **жс, зс** даюць **с** —

| *чуваць* і пішацца: | замéста: |
| --- | --- |
| боскі | божскі |
| французскі | французскі |

і г. д.

У злучэньнях **стл** і **здн** зьнікае **т** і **д**.

| *чуваць* і пішацца: | замéста: |
| --- | --- |
| пачэсны | пачэстны |
| позны | поздны |
| шчасны | шчáстны |
| шаснаццаць | шастнаццаць |

і г. д.

Злучэньне **нн** ужываецца ў тых прымéтах, што створаны ад імéньня, якое мае *н* у аснове: сьцяна—сьцéнны, камéнь—камéнны, вайна—ваéнны, палатно—палацѐнны і г. д. Але там, дзé ў аснове няма *н*, пішацца адно *н*: шкло—шкляны, дрэва—драўляны, гэтак сама зроблены, пабéлены і г. д.

Злучэньне **цц** ўжываецца ў чыслах і дзеяслове: адзінаццаць, дванаццаць і г. д.; мыцца, сьмяяцца, ён мыецца, сьмяéцца і г. д.

§ 101. *Галосныя* **у** і **і** дзеля складнасьці замяняюцца на **ў** і *й*, калі папярэдняе слова канчаецца галосным: было ў бацькі тры сыны, яна ўжо пайшла; ён яго *й* поіць і корміць, яна *й*дзé і г. д. Але пасьля зычнага *у* і *і* не замяняюцца на **ў** і *й*: я тут *у*жо даўно, ён *у* хаце; ён *і*дзе сюды, брат *і* сястра і г. д.

Ад гэтага правіла дзеля вéрша дужа часта адступаюць:

Чыстых хмарак валаконцы
Сталі *у* кружочак

Вышай лёсу, проці сонца
*І* сплялі вяночак.

§ 102. *Прыйме́ньні з прыслоўямі* пішуцца разам: *у*пе́рад, *на*зад, *на*сустрэчу, *да*гары, *з*раньня, *за*праўды, *на*адзіноцы, *у*ле́тку, *у*зімку, *у*раньні, *у*ве́чары, *па*асобку, *у*ваччу, *па*беларуску, *па*чэску, *по*тым, *за*гадзя, *на*ўмысьля, спакваля, *за*ўсёды, *ад*куль, *да*сюль і г. д.

Так сама разам з прыслоўямі пішуцца **не, ні** і ўсе́ складаныя прыслоўі: ніколі, нідзе́, не́калісь, няма, абёруч, абыдзе̂, абыяк, ажно і г. д.

§ 103. Злучок ужываецца ў гэткіх разох:

1) для злучэньня частак **бы, б, жа, ж** з папярэднім словам: добра было-бы, каму-б гэта даць, а мой-жа тысусе̂дзька! ды куды-ж ты, дуб зялёны, пахінаешся?

*Увага.* Калі-ж *бы, б* і *жа, ж* сходзяцца разам, то яны паміж сабой злучком ня злучаюцца: калі-ж бы мне́ пайсьці, вось быў-бы ж ты рады і г. д.

2) для злучэньня складаных прыймёньняў *з-за, з-пад*— з-за стала, з-пад лому і г. д.

3) для злучэньня двух словаў, што азначаюць тую самую рэч—узьве́й-ве́цер, ве́цер-дуронік.

4) у падвойных фаміліях — **Дуж-Душэўскі, Сьвятаполк-Мірскі**, Дунін-Марцінке́віч і г. д.

5) у складаных прыме́тах — **сьне́жна-бе́лы, цёмна-сіні** і г. д.

§ 104. *Словы чужазе́мныя*, узятыя з чужое мовы даўно, пішуцца так, як гэта чуваць у штодзе́нным ужытку: літара, аканом, арганісты, паляруш, калідор, леварвэр, камісія і г. д.

Словы чужазе́мныя, што ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дайшлі або дайшлі нядаўна, пішуцца так, як у тэй мове, скуль яны ўзятыя: тэлегра́ф, тэлеграма, літэратура, монолёг, тэа́тр, дынастыя, партыя, рэдакцыя, інспэктар, дырэктар, рэдактар*) і г. д.

---

*) у такіх разох ар заме́ста ор пад уплывам беларускіх слоў на — ар: пісар, знахар і г. д.

Заме́ста падвойных зычных пішуцца простыя: каса, маса, тэлеграма, Фінляндыя, Голяндыя—а ня касса, масса, тэлеграмма, Гольляндыя, Фінняндыя і г. д.

Чужазе́мнае 1, перадае́цца мягкім *ль*, а ня цьвёрдым *л* Лёндон, філёзофія, монолёг і г. д.

Трэба заўважыць правапіс у такіх разох, як рэдакцыя, нацыя, Францыя, рацыя; рэдакцыйны, нацыянальны, рацыянальны, Голяндыя, Фінляндыя, Курляндыя.

V.

# Сказ

§ 105. У мове кожнае слова ўжываецца не асобна, а ў зьвязку з другімі. Як вяжуцца паміж сабою словы ў мове паказвае навука аб сказе.

У мове мы выказаваем словамі розныя думкі.

**Думка выказаная словамі называецца сказам:** *Пастух трубіць. Зоркі зігацяць на нёбе.*

Словы, з якіх складаецца сказ, **называюцца часьцінамі сказу**.

Часьціны сказу дзéляцца на **асноўныя і даданыя.**

Асноўныя часьціны дзьвé: **дзéйнік і сказьнік.**

*Дзéйнік* паказвае асобу або рэч, якая нéшта *дзéіць* або з якою нéшта дзéіцца: *пастух* трубіць; *зоркі* зігацяць.

> *Увага.* Вельмі важна заўважыць тое, што дзéйнік стаіць у назоўным склоне (адказвае на пытаньне—*хто? што?*): *пастух* трубіць, *трава* расьцé, *яны* прыйшлі, *пяць* больш за чатыры і г. д.

*Сказьнік* паказвае, *што* ў сказе *кажацца* аб дзéйніку, або што дзéйнік дзéіць ці што з ім дзéіцца: пастух *трубіць*, зоркі *зігацяць*, трава *зялёная* і г. д.

**§ 106.** Даданыя часьціны сказу дадаюцца або да дзéйніка, або да сказьніка. Возьмем, напр., такі сказ: *Цікаўныя кніжкі ляжаць на паліцы.* Тутака *кніжкі* — дзéйнік, *ляжаць* — сказь-

нік; слова *цікаўныя* адносіцца да дзейніка (на пытаньне *якія* кніжкі? — цікаўныя); слова *на паліцы**) адносіцца да сказьніка (на пытаньне *дзе* ляжаць? — на паліцы).

Да даданых часьцінаў мовы могуць дадавацца другія даданыя часьціны. Вось, напр., сказ: *Кравец пашыў добрую сьвітку:*

*Кравец пашыў*—гэта асноўныя часьціны (дзейнік і сказьнік). *Што* пашыў? — пашыў *сьвітку*: гэта значыць, *сьвітку* адносіцца да *пашыў*; *якую* сьвітку? — *добрую*: значыць *добрую* адносіцца да *сьвітку*, да даданае часьціны.

Тая часьціна сказу, што адказвае на пытаньні *які?*, *чый?*, *каторы?*, *колькі?* называецца **азначэньнем.**

*Ен мае* добрую (якую?) *кніжку.*

*Сын любіць* свайго (чыйго?) *бацьку.*

*Паляўнічы забіў* чацьвёртага (каторага?) *цецярука.*

*Я маю* пяць (колькі?) *братоў.*

Калі-ж слова адказвае на пытаньні *каго? чаго? каму? чаму? каго? што? кім? чым? пры кім? пры чым?* то яно называецца **дапаўненьнем.**

Напрыклад: *Вазьмі брытву* ад дзіцяці (ад каго?) Ня люблю я места (чаго?) і г. д.

*Увага.* Дапаўненьне, што стаіць у вінавальным склоне (*каго? што?*), называецца простым, усе іншыя называюцца *ускоснымі.*

Тыя словы, што азначаюць час, мейсца, прычыну, мэту або спосаб дзейнасьці, называюцца **акалічнасьцямі часу мейсца, прычыны і спосабу.**

*Акалічнасьць часу* адказвае на пытаньні *калі? ці доўга? ад якога* і *да якога часу?* Напрыклад: *Вечарам* пайшоў дождж. *Усьцяж* па табе плачу. Працуй *зраньня аж да зьмярканьня.*

---

*) прыйменьне ў сказе ня лічыцца за асобную часьціну.

*Акалічнасьць мейсца* адказвае на пытаньні *дзе? скуль? куды?* Напрыклад: *Бяда* ў бары *яго спаткала.* **З неба** *звалілася зорка. Рэкі плывуць* у мора.

*Акалічнасьць прычыны* адказвае на пытаньне *чаму? дзеля якое прычыны?* Напрыклад: *Ён* за работай *ня будзе мець часу й памерці. Ён вярнуўся дамоў* дзеля бацькоў. *Хата загарэлася* ад печы.

*Акалічнасьць мэты* адказвае на пытаньні *нашто? для якое мэты?* Напрыклад: *Ён шмат дае* на бедных. *Валы пайшлі ваду* піць.

*Акалічнасьць спосабу* паказвае *як, якім спосабам* нешта робіцца. Напрыклад: Ціха *сьпіць дзіцятка. Пайшла* ў *места* пехатою.

§ 107. Тыя сказы, што маюць толькі асноўныя часьціны, г. з., дзейнік і сказьнік называюцца **кароткімі**: *Сонца ўзыйшло. Бацька гарэ.*

Тыя, што маюць апрача асноўных часьцін і даданыя, называюцца **разьвітымі**: *Побач раскінуліся родныя вёскі. Жалем сьціскаюцца грудзі.*

Сказы, што маюць дзейнік, называюцца **поўнымі**. *У паноў было ігрышча. Усё сьпіць.*

Тыя сказы, што дзейніка ня маюць, але ён разумеецца, аб ім можна дагадацца, называюцца **няпоўнымі**: *У аднаго чалавека былі два сыны. Жылі сабе згодна* (разумеецца сыны).

Калі-ж аб дзейніку і дагадацца нельга, то гэта безасабовы сказ (г. з., без асобы або рэчы, ад якое залежыць дзейнасьць). *Сьцямнела. Грыміць. Чужым розумам век не пражывеш. Хоць блізка відаць, ды далёка дыбаць. Цярпеньнем і працай горы пераносяць.*

Калі ў сказе два ці больш дзейнікі, сказьнікі, дапаўненьні, азначэньні ці аднолькавыя акалічнасьці, то такі сказ называецца **зьлітым**. Напрыклад: *Гдзе* жняя *і* весела *пяе. Весела й хутка* мінутка ў мінутку зойдзе нам час. *У стуку і груку* забудзем мы муку працы свае.

§ 108. Кожную часьціну сказу можна разьвіць у цэлы сказ даданы, які дадаецца да сказу асноўнага. Заместа— ніхто ня ведае *чужога абеду*, можам сказаць: ніхто ня ведае, *як хто абедае*. Ніхто ня ведае — гэта сказ асноўны; *як хто абедае* — гэта даданы сказ дапаўненьня, бо ён замяняе дапаўненьне (чужога *абеду*).

Так сама, як сказ дапаўненьня, могуць быць даданыя сказы дзейніка, азначэньня і розных акалічнасьцей, калі яны замяняюць дзейнік, азначэньне і акалічнасьці. Напр.: І той багатыр, *хто мае ўсялякага дабра*, і той, *хто дужы і здаровы*. Гай, *што быў цёмны*, зазеляніўся. Ніхто ня дойдзе туды, *дзе канчаецца зямля*. Тады папараць зацьвіціць, *калі на вярбе вырастуць ігрушы*. Будзе голад, *бо збожжа не ўрадзіла*. Прыйшлі да хаты, *каб супачыць*. *Як ты да людзей* так людзі да цябе.

*Увага*. Сказы даданыя інакш называюцца залежнымі, бо яны залежаць ад асноўнага сказу. Тады сказ асноўны называецца **незалежным**.

§ 109. Прыдатак—гэта ёсьць азначэньне, выказанае іменьнем; стаіць яно ў тым самым склоне, як і тое слова, да якога яно адносіцца. Напрыклад: Астаўся *адзін сын*, сірата. *Ех ты, Нёман*, рака. *Янка*, брат майго таварыша, *вельмі любіць паляваньне*.

Прыдатак з усімі тымі словамі, што да яго адносяцца, выдзяляецца коскамі.

Зваротак так сама выдзяляецца коскамі. *Радзі*, Божа, *жыта!* Сьпі, наш міленькі саколік! Брацьця, ці зможам грамадзкае гора?

§ 110. У пісанай мове ставяцца розныя знакі прыпынку.

Пункт (.) ставіцца пасьля кожнага закончанага сказу.

Коска (,) выдзяляе зваротак, прыдатак, даданыя сказы з асноўнага і разьдзяляе падобныя часьціны ў зьлітым ска-

зе. Напрыклад: *Лятуць да нас, лятуць яны з далёкай, цёплай стараны, нясёцца крык іх над зямлёй, бо бачаць ўжо край родны свой.*

Коска звычайна стаіць перад *а, бо, але, калі, дзё, які, каторы, хто, што, хоць* і ў іншых разох.

Коска разьдзяляе так сама і незалёжныя сказы, калі яны дужа кароткія альбо паміж імі стаіць *і, а, але. Лёта зьбірае*, а *зіма праядае. Загрымёў гром*, і *пайшоў дождж. Смачны жабе гарэх*, але *зубоў Бог ня даў.*

Калі-ж незалёжныя сказы нічым ня зьвязаны і ня зусім кароткія, то паміж імі ставіцца пункт з коскай ( ; ). Напрыклад: *Вясною косы сонца што дзёнь робяцца цяплёйшымі. Птушкі пяюць зычнёй і весялёй; пёрайка на іх асьвяжаецца, і самі яны ажыўляюцца.*

Два пункты ( : ) ставяцца:

1) перад пералічэньнем, калі ёсьць слова, што абымае ўсё пералічанае, напрыклад: *Год мае чатыры* пары: *вясну, лёта, восень, зіму.*

2) паміж незалёжнымі сказамі, калі адзін аб'ясьняе другі— *Тут ня гандаль, тут ня крама: няма дзёгцю, няма солі.* Наагул, *два пункты* блізка тое самае, што слова *значыць.*

Працяжнік (—) ставіцца пасьля пералічэньня, дзё прапушчана нёйкае слова і, наагул, там, дзё хочам *працягнуць* увагу чытара, напрыклад: *вясна, лёта, восень* і *зіма—пары году. Падсадзі—сарву я грушку.*

Недаказ (...) ставіцца, калі думка не даказана, напр. *Сказаў-бы я табё... але што там гаварыць.*

Пытальнік (?) стаіць пасьля пытаньня. *Дзё-ж ты гэта, мой каласок?*

Клічнік (!) стаіць пасьля клічу, напр.: *Добры вёчар, пане гаспадару!* Адважна, брацьця!

**У чужаслове „—“** ставяцца або чужыя словы (ня тэй асобы, што гаворыць ці расказвае), або словы нéчым асаблівыя, напр.: *Узяў шапку і, сказаўшы: „Аставайцеся здаровыя!“ выйшаў з хаты. „Наша Доля“—пéршая беларуская газэта.*

**У скобкі** бярэцца паясьнéньне або пабочная думка: Беларускія плямéньні (крывічы, дрыгвічы і радзімічы) здаўна жывуць на сваёй зямлі.

